

№ 38 (55)

Кастрычнік 2004 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года


## У нумары:



## 14 кастрычніка адзначаецца Дзень маці

*З нагоды святочнага дня 15 кастрычніка ў Любані адбудзецца мінскае абласное свята «Уславім Маці, чыя любоў бязмежная...»*




## Традыцыйны касцюм Гомельскага раёна

Лабараторыя традыцыйнага мастацтва Беларускага дзяржаўнага інстытута праблем культуры з 1993 года працуе над доўгатэрміновым навуковым праектам падрыхтоўкі рэгіянальных анталогій па навукова-даследчай тэме «Сучасны стан традыцыйнай мастацкай культуры беларусаў». Кожны том прадстаўляе раздзелы «Народны каляндар», «Сямейная абраднасць», «Народны касцюм», «Дэкаратыўна-ужытковае, інсітнае мастацтва»...

Комплекснае этнаграфічнае даследаванне Гомельшчыны распачата з 2003 года. У маі 2004 года адбылася чарговая экспедыцыя па зборы матэрыялаў аб традыцыйным народным касцюме. Пра вынікі гэтай экспедыцыі *на* ***5-й старонцы*** «КГ» расказвае старшы навуковы супрацоўнік інстытута Ірына Чыжова.

## «Зорны час» прафесара Бідэра

У апошнія гады загадчык кафедры славістыкі Зальцбургскага універсітэта Герман Бідэр друкуе свае мовазнаўчыя працы, у якіх нязменна прысутнічае беларускі матэрыял, у выданнях розных краін і на розных мовах.

Сярод дасланых прац прафесара найперш трэба назваць даследаванне «Класіфікацыя ўсходнеславянскіх моў і дыялектаў у галіцыйскім мовазнаўстве (другая палова XIX стагоддзя)». Апублікавана яно ў зборніку «Нормы, найменні і тэндэнцыі ў славістыцы», выдадзеным сёлета на нямецкай мове ў Мюнхене. Дарэчы, зборнік прысвечаны 65-годдзю з дня нараджэння вядомага берлінскага беларусіста Карла Гутшміта. Мадыфікацыя той жа працы змешчана ў зборніку «Украіністыка» (Крывы Рог, 2003). Тут вылучаецца раздзел, прысвечаны спрэчкам галіцыйскіх (пераважна львоўскіх) вучоных, куды аднесці беларускую мову: да дыялектаў украінскай ці рускай мовы... Спрэчкі гэтыя спынілі выхад у Варшаве кнігі Я.Карскага «Беларусы», у якой даказана самастойнасць беларускай мовы.

На рускай мове напісаны і апублікаваны раздзел Г. Бідэра «Культура мовы: усходнеславянскія мовы» ў калектыўнай манаграфіі Інсбрукскага (Аўстрыя) і Апольскага (Польшча) універсітэтаў (Аполе, 2003). Беларускі матэрыял тут вылучаны ў спецыяльны падраздзел з акцэнтацыяй увагі на нармалізацыю літаратурнай мовы і словатворчасць.

На польскай мове пабачыў свет артыкул прафесара «Рэлігія, мова, этнас і графіка ў многакультурных рэгіёнах» (беластоцкі зборнік «Шматмоўнасць і шматкультурнасць на польска-ўсходнеславянскім памежжы»), на рускай мове – працы «Мова і таталітарызм» (вялікатырнаўскі зборнік «Тэарэтычныя і метадычныя праблемы рускай мовы як замежнай у пачатку XX стагоддзя»), «Развіццё лексічных і словаўтваральных норм усходнеславянскіх літаратурных моў у постсавецкі перыяд» (харкаўскі «Вестник международного славянского университета»).

Урэшце, у Г. Бідэра ёсць і беларускамоўная публікацыя – «Веравызнанне, этнас і мова ў XX стагоддзі» (мінска-магілёўскі квартальнік «Край).

*Кацярына ЛЮБЕЦКАЯ, «Голас Радзімы»*

## З'езд ля алтара

***Адбыўся ён, VIII Сусветны, сёлетнім летам на Лідскай зямлі, многіх удзельнікаў сабраўшы каля алтара, які падарыў касцёлу вёскі Нецеч прафесар Гданьскага універсітэта (Польшча) Лех Макжэцкі. Яго прадзед Аляксандр быў фундатарам гэтага касцёла – помніка культавай архітэктуры.***

Зразумела, што нашы колішнія земляки і іх нашчадкі зрабілі змястоўныя экскурсіі ў Мінск і Навагрудак, Мір, на возера Свіцязь. Моцна ўразіў гасцей Мінск. Як сказаў Лех Макжэцкі, – «горад еўрапейскай прыгажосці». Не менш спадабалася невялічкае Іўе, спатканне ў ім у мячэці з мясцовымі татарамі, імамам іх абшчыны Ісмаілам Шабановічам. Нездарма ж тут пабывалі госці з Турцыі і Лівіі, Марока і іншых краін. А яшчэ дэлегаты з'езда даведаліся, што іўеўскія татары валодаюць мовай беларусаў і палякаў, вывучаюць сваю родную – арабскую.

Цікава, што на гэты раз на з'езд завіталі дэлегаты з Галандыі і Канады. У вёсцы Старыя Васілішкі (Шчучынскі раён) іх увагу прыцягнуў дом, дзе нарадзіўся і рос вядомы польскі спявак Чэслаў Неман (Выдрыцкі). Асаблівае ўражанне выклікалі канцэрты народных ансамбляў «Гудскі гармонік» з Лідскага раёна і «Лявоны» з суседняга Воранава.

## Песенны санаторый Ялты – «Беларусь»

***Гэта высветлілася ў час дэкады беларускай культуры ў Цэнтры дзіцячай і юнацкай творчасці ў Ялце, якая прайшла яшчэ ў лістападзе мінулага года. Тады ж адбыліся вечарыны ў Ялце і Алуіцчы пад назвай «У вянок Максіма Багдановіча», прысвечаныя 90-годдзю з нагоды выхаду ў свет яго прыжыццёвага зборніка «Вянок».***

Дык вось, у дэкадзе ўдзельнічаў ансамбль народнай песні «Славяне» санаторыя «Беларусь». Спяваюць у ім небеларусы, але ўлюбёныя ў нашы народныя песні людзі. Дарэчы, апрануты яны былі ў беларускія канцэртныя строі, дасланыя з Беларусі ім у падарунак. Песні, вершы, музыка гучалі са сцэны, а ў фае былі арганізаваны выставы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і жывапісу мастакоў-беларусаў Крыма.

Дэкада мела свой працяг у Алушце, Партэніце, Севастопалі. У Сімферопалі дэкада завяршылася гала-канцэртам «Жураўлі на Палессе ляцяць».

Робіцца шмат, каб беларусы Крыма не забывалі духоўную спадчыну свайго народа. Чаму спрыяла і сустрэча са старшакласнікамі і навучэнцамі Крымскага гуманітарнага інстытута, прысвечаная Максіму Багдановічу.

Расказаў нам пра гэта наш зямляк з вёскі Струкі Буда-Кашалёўскага раёна Віталь Бартохаў, які жыве зараз у маляўнічым куточку Крыма Партэніце і дзе ён, член праўлення Крымскага беларускага культурна-асветніцкага таварыства, вось ужо тры гады ўзначальвае створаную ім беларускую суполку «Сябрына», працуе ў Алушце загадчыкам клуба санаторыя «Залаты колас».

Трэба меркаваць, што неўзабаве ў беларусаў Крыма адбудуцца новыя цікавыя перамены ў жыцці. Упершыню ў іх у гасцях пабывала старшыня Саюза беларусаў Украіны Ірына Аржахоўская, што абнадзейвае.


**Шаноўныя сябры!**

Падпісацца на нашу газету заўсёды можна ў рэдакцыі

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны – 63320;
ведамасны – 633202

**Кошт на 1 месяц:**
індывідуальны – 3 320 рублёў;
ведамасны – 3 439 рублёў

Падпіска ў рэдакцыі – 2 520 рублёў на месяц





# Музейная мазаіка

***Дом-музей Адама Міцкевіча з пачатку гэтага года пачаў свой новы праект – выданне ўласнага Інфармацыйнага бюлетэня «Музейная мазаіка».***

***Як падкрэслівае ва ўступным слове дырэктар установы Мікалай Гайба, асноўная мэта выпуску – музеязнаўства, жыццё і творчасць Адама Міцкевіча, краязнаўства. У нумарах, што пабачылі ўжо свет, некалькі самых розных рубрык: навіны ў музейным жыцці краіны і свету, знаёмства з сусветна вядомымі і арыгінальнымі музеямі, віктарыны і конкурсы, даследаванні пра першыя пераклады Міцкевічавай паэмы «Пан Тадэвуш» на беларускую мову (1859) з часоў В. Дуніна-Марцінкевіча (цэнзура забараніла пераклад, ацалела толькі 4 экземпляры, і з іх у 1907–1908 гадах выдавецтва «Загляне сонца і ў наша аконца» перавыдала пераклад), звестка пра змест інфармацыі пра Дом-музей Адама Міцкевіча ў Інтэрнэце і пра гісторыю гэтай установы, пра паштоўкі, выдадзеныя ў 2004 годзе выдавецтвам «Беларусь» пра яе. Ёсць гумар і сатыра.***

***Жадаем аўтарам, адказным за выпуск інфармацыйнага бюлетэня, навукова-творчага плёну. Нашых чытачоў знаёмім з адным з матэрыялаў яго выпуску за № 3.***

## Гісторыя Дома-музея Адама Міцкевіча

Першая рэальная спроба стварэння ў Навагрудку музея Адама Міцкевіча адносіцца да 1920 года. Тагачасны орган мясцовай улады – Навагрудскі павятовы рэўкам выдаў 16 верасня 1920 г. загад № 40 аб утварэнні ў доме, дзе жыў паэт, музея або бібліятэкі яго імя. Загадвалася прадастаўцыць пражываючым там людзям новае жыллё, а будынак аддаць у распараджэнне аддзела народнай асветы. Дадзенае рашэнне не было ажыццёўлена, бо ў ходзе польска-савецкай вайны Навагрудак праз два тыдні быў заняты польскай арміяй.

Рэальна Дом-музей быў створаны ў 1930-я гады намаганнямі «Міцкевічаўскага камітэта» – добраахвотнага навуковага таварыства пад кіраўніцтвам мясцовага ваяводы. Рашэнне аб стварэнні Дома-музея прынята «Міцкевічаўскім камітэтам» 10 мая 1931 г. Адкрыццё музея адбылося 11 верасня 1938 года. Яго першым дырэктарам стаў Уладзіслаў Ляруй.

З устанаўленнем на Заходняй Беларусі савецкай улады пастановай Савета Народных Камісараў БССР ад 03.12.1940 г. Дом-музей быў узяты пад ахову дзяржавы і перайшоў у распараджэнне Народнага камісарыята асветы.

У чэрвені 1941 г. Дом-музей быў разбураны нямецкай авіябомбай. Была знішчана большая частка экспанатаў. Пэўная колькасць ацалелых экспанатаў была вывезена ў пасляваенны час на тэрыторыю Польшчы.

Дом-музей быў адноўлены ў даваенным выглядзе да 100-годдзя са дня смерці А.Міцкевіча і адкрыты 26 лістапада 1955 г. Чарговая музейная экспазіцыя адкрылася ў 1971 годзе і з пэўнымі зменамі праіснавала да канца 1980-х.

У 1989–1990 гадах віленскім аддзяленнем польскай фірмы «Budymex» за сродкі беларускага боку была праведзена рэканструкцыя сядзібы Міцкевічаў: адноўлены будынак па ўзоры пачатку XIX ст., пабудаваны флігель, які злучаецца з асноўным будынкам падземным пераходам, а таксама свіран, калодзеж, альтанка. У аднаўленым будынку 12 верасня 1992 г. адкрылася новая экспазіцыя, створаная сумесна супрацоўнікамі Дома-музея і музея Літаратуры імя А.Міцкевіча з Варшавы. У ёй знаходзілася, акрамя ўласных, і 152 экспанаты, перададзеныя на дэпазіт польскімі музеямі. У маі 2001 г. дадзеныя экспанаты вернуты польскаму боку.

Дзеючая сёння экспазіцыя адкрыта 25 мая 2001 г. Работы па яе стварэнні на сродкі мясцовага (Навагрудскага раёна) бюджэту выкананы прадпрыемствам «Мінскі мастацкі камбінат». Аўтары навуковай канцэпцыі – супрацоўнікі Дома-музея С.Анісімава, Н.Чарняўская, М.Гайба. Мастацкае рашэнне ажыццёўлена мастаком Г.Чыстым (г. Мінск).

Дырэктар музея са студзеня 2000 г. – М.П. Гайба. Штогод Дом-музей наведваюць каля 20 тысяч чалавек. Экскурсіі праводзяцца на беларускай, рускай, польскай, нямецкай і англійскай мовах.

*М.Г.*

*Святкуюць людзі!*

# Чачэрскія эпохі на свяце горада

Такога 845-гадовы Чачэрск, бадай, не бачыў. За тры дні па вуліцах і пляцах горада прайшліся людзі самых розных часоў: ад яго заснавання да дня сённяшняга. Паглядзіце на здымкі балетмайстра-пастаноўшчыка свята Міколы Котава і перанясіцеся хаця ў некалькі імгненняў памаладзелага старажытнага горада. Розныя эпохі і сацыяльныя слаі пераплёліся ў тры вераснёўскія дні на зямлі Чачэрскай: былі тут і прыўкрасныя дамы сярэднявечча, і рыцары-абаронцы, і удзельнікі грамадзянскай вайны, і вызваліцелі ад фашысцкай навалы, і супастаты-захопнікі, якіх са свята не праганялі – хай зайздросцяць шчаслівым людзям і за локці сябе кусаюць...



А сённяшнія спадкаемцы слаўнай гісторыі паказалі свае ўмельствы і таленты на канцэртах бардаўскай песні, року і эстрады, падчас прадстаўленняў друкаваных выданняў, на спартыўных і паляўніча-рыбалоўных спаборніцтвах. «Чачэрская багатуха» запрасіла на экскурсію па сельскіх падворках. Кірмаш народных фальклорных вытокаў і Горад майстроў паказалі багацце сучасных жыхароў Чачэршчыны. І калі вы думаеце, што свята скончылася звычайным (ці незвычайным) феерверкам, то памыліцеся. Не, вогненныя кветкі на паўнеба былі... Але апошняй была танцавальная вечарына для ўсіх узростаў на Цэнтральнай пляцы, якая называлася «Полька да раніцы».



Карацей, пастараліся і Чачэрскі райвыканкам, які задумаў свята, і галоўны рэжысёр-пастаноўшчык Мікола Макарцоў, і мастак-пастаноўшчык Віктар Ермакоў. Доўга ў горадзе будуць абмяркоўваць, як прабеглі тры восеньскія дні 2004-га.



# Яго скарб



Напалеон Орда... На добры лад прозвішчам гэтага адмысловага чалавека павінна называцца адна з вуліц нашага мястэчка. Дзякуючы яму, мы сёння ведаем, які знешні выгляд, якую архітэктуру меў славуты Кармяліцкі касцёл, што быў зруйнаваны мясцовымі камуністамі.

Ажыццявіўшы сваю запаветную мару стварыць серыю гістарычна-архітэктурных пейзажаў роднай Беларусі, Напалеон пакінуў сваім нашчадкам неацэнны скарб: больш за трыста аркушаў малюнкаў і акварэляў архітэктурных помнікаў. У тым ліку і Бялыніцкага кармеліцкага кляштара.

Н. Орда нарадзіўся ў фальварку Зарацэвічы, што на Брэстчыне, вучыўся ў Віленскім універсітэце. За ўдзел у тайным згуртаванні студэнтаў «Заране» быў выключаны з ліку студэнтаў і на год і тры месяцы пасаджаны ў турму. Падчас падзей 1830 года гвардзеец коннага Літоўскага корпуса Н. Орда пераходзіць на бок паўстанцаў. Пасля задушэння паўстання ён эмігрыруе ў Парыж, сябруе з Ф. Шапэнам, Ф. Лістам, А. Міцкевічам. Па аб'яўленні амністыі паўстанцам (1856) назаўсёды вяртаецца на радзіму, расстаўшыся пры гэтым з жонкай і сынам. Тут і прысвячае ўсё сваё жыццё высакароднай мэце – стварэнню гісторыка-архітэктурных карцін.

Змалёўваў свае пейзажы Н. Орда з натуры. Найбольш верагодна, што завітаў ён у Бялынічы ў перыяд між 1859 і 1876 гадамі. У 1882 годзе Адам Кіркор упершыню змясціў літаграфію Орды «Касцёл у Бялынічах» на старонках «Маляўнічай Расіі».

*М. БОЛІНСКІ, «Бялыніцкая даўніна»*





*Навіны з Дварца*

# Самая цудоўная ў свеце вёска

Галоўнае і самае дарагое ў жыцці кожнага чалавека – гэта яго «малая радзіма». Тая мясціна, дзе ён нарадзіўся, той свет, які ён упершыню ўбачыў шырока, тая зямля, па якой ён зрабіў першыя крокі. Але, каб маленькі чалавек зразумеў і адчуў каштоўнасць родных мясцін, патрэбны значныя намаганні дарослых. Самае важнае – прывіць дзецям любоў да гэтага роднага куточка, каб потым праз гады, ужо ў дарослым жыцці, ён зняў зорачкай, у цяжкія хвіліны супакойваў і гаіў раны душы назгаслым, цёплым сваім святлом. Калі ў чалавека цесная душэўная сувязь са сваёй малой радзімай – ён заўжды будзе адчуваць сябе абароненым, патрэбным і любімым. А для таго, каб сувязь гэта была непарыўнай, трэба ў дзяцей абудзіць жаданне зберагчы, абараніць прыроду, гістарычную спадчыну, захаваць прыгажосць і прымножыць яе, а не засмеціць і не затаптаць – такую мэту і ставіць у сваёй рабоце наш эколага-краязнаўчы гурток «Спадчына». Ён існуе тры гады. У яго складзе – 10 дзяцей старэйшага ўзросту, якія наведваюць дзіцячы сад «Вяночак». І хоць краязнаўства зараз не зусім папулярнае, але мы здолелі за непрацяглы час заваяваць значны аўтарытэт, а дзеці сталі ініцыятыўнымі, развэжлівымі і клапатлівымі.



Краязнаўцы з дзіцячага садка

На пачатку нашага шляху, калі дзеці былі яшчэ зусім маленькімі, наш гурток быў выключна экалагічнага напрамку. У нашай вёскі вельмі цікавае прыроднае асяроддзе. Была распрацавана экалагічная сцяжынка, якая ўключала ў сябе найбольш значныя і цікавыя для дзяцей прыродныя аб'екты. Прычым асобая ўвага ўдзялялася не проста аб'ектам, цікавым для назірання, але тым, якія патрабуюць дапамогі, увагі, абароны. Падарожнічаючы па экалагічнай сцяжынцы, дзеці зрабілі свае першыя крокі ў цудоўны і захапляльны свет беларускай прыроды, і не проста як староннія назіральнікі, а як дбайныя і руплівыя гаспадары гэтага багацця.

Падарожнічаючы па экалагічнай сцяжыне, нельга было не звярнуць увагі на аб'екты гістарычнай спадчыны. Яны вельмі значныя для тых людзей, якія тут нарадзіліся і жывуць. Але, на жаль, мала хто пра гэта задумваецца. А многія з гэтых аб'ектаў патрабуюць неадкладнай дапамогі. І калі яна не прыйдзе, яны перастануць існаваць. І з мінулага года наш гурток атрымаў новы напрамак работы – краязнаўчы. Мы распрацавалі свой маршрут «Мой край», на якім працуем і цяпер. Яго мы прадставілі на рэспубліканскім конкурсе на лепшы праект краязнаўчага маршрута, які праводзіла грамадская арганізацыя «Беларускі зялёны крыж», і сталі лаўрэатамі гэтага конкурсу.

Наш маршрут уключае ў сябе 23 аб'екты – прыродныя і гістарычныя. Расказаць пра кожны з іх хацелася б на старонках газеты.

Найбольш цікавы і найбольш любімы дзецьмі – Самотны Анёл. Гэта дзеці яго так назвалі. З яго і пачнём знаёміць вас з нашай любімай і самай цудоўнай у свеце вёскай Дварэц.

***Наталля ЛЯЎКЕВІЧ,***
***кіраўнік эколага-краязнаўчага гуртка «Спадчына», в. Дварэц Дзятлаўскага раёна***

**Ад рэдакцыі.** ***Наталля Міхайлаўна даслала нам цыкл сваіх матэрыялаў на вышэйзначаную тэму. Дзякуем. Будзем рыхтаваць іх да друку.***

# Слуцкія антымінсы знайшліся ў Калузе

Мастацтвазнаўцам Галінай Сафонавай і мной у зборах Калужскага абласнога мастацкага музея выяўлены чатыры антымінсы XVII стагоддзя, якія паходзяць з Беларусі. Патлумачу, што антымінсы – гэта адбіткі на палатне арыгінальных твораў станковай графікі на дрэве, тэматычна звязаных з Палажэннем Хрыста ў труну; у тканіну ўшываліся мошчы, а сама яна клалася на прастол пад Евангелле. На пачатку мінулага стагоддзя гэтыя рэліквіі знаходзіліся ў Мінскім царкоўна-археалагічным музеі. У час Першай сусветнай вайны, калі пагражала нямецкая акупацыя, іх перавезлі (відаць, часова) у Калугу. З чатырох антымінсаў два захавалі надпісы, якія сведчаць пра іх ранейшую належнасць храмам Нараджэння Хрыстова і Уваскрэсення Хрыстова ў Слуцку.

Першы з антымінсаў, выкананы кіеўскім майстрам-манаграмістам ЛТ каля 1633 года, вядомы толькі ў некалькіх экземплярах, якія захоўваюцца ў Львове, Чарнігаве і Сафіі. Яго асвяціў мітрапаліт Пётр Магіла, хутчэй за ўсё, у 1635 годзе, перад сваім аб'ездам праваслаўных прыходаў і манастыроў Беларусі. Антымінс, асвячоны мітрапалітам Варлаамам Ясінскім ў 1693 годзе, уяўляе сабой даволі дакладнае ўзнаўленне папярэдняга і змяшчае ў цэнтры такую ж кампазіцыю, дзе паказана аплакванне Хрыста анёламі. «Антымінс Рухомы», выраблены ў другой палове XVII стагоддзя, расфарбаваны ў некалькі колераў; выява на ім адносіцца да той жа іканаграфічнай схемы, што



і на двух папярэдніх. На чацвёртым антымінсе паказана Палажэнне ў труну, названа імя мітрапаліта Антонія Вінніцкага; асвяцілі яго ў 1670 годзе (незадоўга да смерці апошняга) для Уваскрасенскай царквы ў Слуцку.

Усе названыя антымінсы выкананы ў тэхніцы адбіткаў з гравюр на дрэве і служаць яе рэдкімі ўзорамі, належаць да нешматлікіх прыкладаў, гістарычна звязаных з праваслаўным асяроддзем Беларусі XVII стагоддзя. Захаваныя надпісы і аўтографы вядомых іерархаў павышаюць значэнне пералічаных антымінсаў як гістарычных крыніц.

***Васіль ПУЦКО,***
***намеснік дырэктара па навуковай рабоце Калужскага абласнога мастацкага музея, «Голас Радзімы»***



# Сказ пра Палессе

ЧАСЛАЎ ПЯТКЕВІЧ

Рэчыцкае Палессе

Мінск «Беларускі кнігазбор» 2004

***Выдавецтва «Беларускі кнігазбор» працягвае радаваць (кагосьці нават першым знаёмствам) перавыданнямі, якія вядомыя толькі навукоўцам. Вось і нядаўна пабачыў свет аб'ёмісты том Часлава Пяткевіча «Рэчыцкае Палессе».***

Аўтар нарадзіўся ў 1856 годзе ў в. Бабчын каля Хойнікаў. Бацька служыў старэйшым ляснічым, за «бунтарства» быў асуджаны; пяццю дзецьмі займалася маці і ўсім дала хатнюю адукацыю. Часлаў мусіў змоладу зарабляць на хлеб, працаваў на розных смалакурнях і броварах. Пасля 30 гадоў пакідае роднае Палессе і шукае шчасця ў іншых краях.

З 1904 года – на Украіне, дзе на яго ўплывае выпускнік Кракаўскай акадэміі мастацтваў К. Машынскі, зацікаўлены і вывучэннем народнай культуры славян, і падтрымкай маладога этнографа з Беларусі. З 1924-га ў Варшаве, дзе супрацоўнічае з навуковым таварыствам і пачынае пісаць – можа, і пад уплывам свайго дзядзькі пісьменніка Антонія Пяткевіча (Адама Плуга). У 1925 годзе сталым ужо чалавекам Пяткевіч друкуе свой першы артыкул. Пазней – публікацыі яго «Дарогі на Рэчыцкім Палессі ў другой палове XIX стагоддзя», «Хойнікі», «Палессе ў канцы XIX стагоддзя (пажары сасновых лясоў і балот)», «Рэчыцкае Палессе», якія сумесна прынеслі яму заслужаную вядомасць этнографа-побытаапісальніка палешукоў-беларусаў навуковасцю, незвычайнай дэталёвасцю. Да ўсяго, многія працы былі аздоблены вялікай колькасцю малюнкаў. Асабліва ў гэтым сэнсе пашанцавала «Рэчыцкаму Палессю».

Часлава Пяткевіча вабіў не толькі матэрыяльны воблік, але і духоўны свет палескага чалавека; праца прыпынілася толькі з-за таго, што яму было даручана вельмі адказнае заданне – падрыхтаваць пасмяротнае выданне IV тома «Люду беларускага» М. Федароўскага. Ён падышоў да справы вельмі адказна і ўпарадкаваў запісы старэйшага паплечніка, зробленыя на працягу амаль 30 гадоў (1877–1905). Картатэка, выкананая ім, складала каля 28 000 картак. Таксама прыходзілася на старонках «Люду беларускага» рабіць свае каментарыі, дапаўненні. Недзе каля 200.



Пасля заканчэння карпатлівай працы Ч. Пяткевіч прысвячае сябе асвятленню новых нюансаў з жыцця беларускага народа – «Душа і смерць у вераваннях беларусаў», «Вялікдзень на Беларусі». Самі па сабе ўжо і загалоўкі шмат пра што кажуць: рэальнае і міфічнае жыццё, Бог, анёлы, нячыстая сіла, атмасферныя з'явы, агонь і вада, народныя вераванні, звязаныя з жывёльным светам, прадказанне будучыні, розныя легенды, прыказкі, замовы, парады па гігіене, музычны свет селяніна – усё гэта і іншае яшчэ з язычніцкіх часоў трапіла ў поле зроку этнографа і фалькларыста.

Не ва ўсіх прац Ч. Пяткевіча быў шчаслівы лёс, не ўсё ў свой час было выдадзена. Сёе-тое лічылася загінулым і, мабыць, загінула. Памёр даследчык у 1936 годзе, так і не займеўшы сваю сям'ю, аддаўшы шмат часу і сіл для напісання таго, як слушна заўважае ў прадмове да тома яго укладальнік Ул. Васілевіч, каб ва ўсёй паўнаце адлюстраваць жыццё «людзей на балоце».

Пераклалі трылогію Ч. Пяткевіча на беларускую мову Ул. Васілевіч і Л. Салавей, а дапамог выдаць чарговую кнігу з серыі «Гісторыка-літаратурныя помнікі» прэзідэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі М. Ул. Мясніковіч.





# Дзве кнігі пра сумежжа культур

ПЕРШАЯ КНІГА – гэта зборнік прац Эльжбеты Смулковай, напісаных і апублікаваных у розныя гады. Прысвечаны яны пераважна або ў значнай ступені Беларусі, мове яе народа, рознага характару польска-беларускім кантактам і сувязям. Разглядаюцца ў іх і агульнатэарэтычныя праблемы.

Кніга складаецца з пяці раздзелаў, прадмовы і спісу прац аўтара.

Першы раздзел «Акцэнталогія, фанетыка і фаналогія» прысвечаны адзначаным у загалоўку кампанентам дыялектнай мовы. У раздзеле 10 артыкулаў. Напісаны яны пераважна на беларускім матэрыяле, у значнай ступені – на матэрыяле рускім, украінскім, польскім, літоўскім. Сярод высноў тэарэтычнага характару звернем увагу на наступныя.

Асаблівасці націску, як і іншыя сістэмы народных гаворак, па-першае, могуць канстатаваць характар гаворкі, а па-другое, яе паходжанне.

У прыватнасці, у беларускіх гаворках больш позняга ўтварэння на паўночным захадзе Беларусі выразна выяўляецца балцкі субстрат. Гаворкі Слаўгарадскага раёна Магілёўскай вобласці адлюстроўваюць узаемаўплывы паўночна-ўсходняга і паўднёва-заходняга дыялектаў. Асаблівасці націску гаворак «сярэдняга» Палесся сведчаць пра іх архаічнасць, а таксама ўзаемаўплывы ўсходне- і заходнепалескіх дыялектных сістэм.

Крытэрыі прадказальнасці націску або правілы акцэнтуацыі для такіх блізкароднасных моў, як беларуская і руская, у многіх выпадках розныя. Украінская мова ў гэтых адносінах, відаць, значна адрозніваецца і ад беларускай, і ад рускай моў.

Другі раздзел – «Марфалогія і лексікалогія дыялектаў беларускай мовы». У васьмі яго артыкулах выкарыстоўваецца дыялектны матэрыял з усяго рэгіёна пашырэння беларускіх гаворак. І ў той жа час асаблівая ўвага ўдзяляецца гаворкам Беласточчыны.




Выдзяляюцца буйныя дыялектныя арэалы на падставе дадзеных акцэнтуацыі, марфалогіі, націску. Параўноўваюцца яны з фанетычнымі арэаламі. Разглядаюцца праблемы іх узаемасувязей і адрозненняў.

20 артыкулаў увайшлі ў склад трэцяга раздзела пад назвай «Моўныя кантакты». На Зямлі існуе мноства моў, дыялектаў, гаворак. Як правіла, яны існуюць не ізалявана, а ў кантактах і ўзаемасувязях паміж сабою. Таму гэтая тэма вельмі актуальная. Ёю займаюцца многія даследчыкі-гуманітарыі на ўсіх кантынентах. Працы Э.Смулковай па ўказанай тэматыцы прысвечаны даследаванню сувязей беларускай мовы і яе гаворак з мовамі польскай, літоўскай, рускай, украінскай і іх гаворкамі на розных узроўнях. Асаблівай увагі заслугоўвае тэарэтычны артыкул «Прапанова тэрміналагічнага звужэння абсягу паняццяў «пераходныя гаворкі» – «мясцовыя гаворкі».

У васьмі артыкулах чацвёртага раздзела пад назвай «З навуковага жыцця» падаецца інфармацыя пра дзейнасць кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта і Мовазнаўчай камісіі Беластоцкага навуковага таварыства. Публікуецца прамова аўтара на адкрыцці Другога Міжнароднага кангрэса беларусістаў. Чатыры артыкулы прысвечаны памяці вядомых людзей і інфармацыі пра іх дзейнасць. Гэта прафесары А. Абрэмбская-Яблонская, Л. Асоўскі, а таксама Г. Карпенка, В. Вярэніч. Асобны артыкул прысвечаны пісьменніку-публіцысту Я. Гарэліку.

Пяты раздзел «Беларусь – Польшча. Грамадска-палітычныя праблемы» аб'ядноўвае шматлікія артыкулы, прысвечаныя разнастайным грамадскім, палітычным, культурным і іншым сувязям Беларусі і Польшчы.

ДРУГАЯ КНІГА – гэта зборнік навуковых прац, прысвечаных 70-годдзю Э. Смулковай. Аўтары зборніка – яе калегі, сябры, вучні, супрацоўнікі. Сярод аўтараў – беларускія даследчыкі Г. Арашонкава, Л. Выгонная, А. Жураўскі, А. Крывіцкі, І. Кур'ян, В. Лабачэўская, А. Мальдзіс, С. Мінскевіч, Н. Мячкоўская, А. Семянчук, А. Смалянчук, Н. Усава, Г. Цыхун, А. Янушкевіч, І. Яшкін і іншыя.




Зборнік тэматычна складаецца з уступнага і трох асноўных раздзелаў, якія адпаведна прысвечаны сумежжам моў, культур і гісторыі даследавання сумежжаў. У большасці прац шырока прадстаўлена беларуская тэматыка.

Уступны раздзел даволі спецыфічны. Гэта інтэрв'ю аднаго з рэдактараў зборніка, А. Энгелькінг, з прафесарам Э. Смулковай і бібліяграфія прац Э. Смулковай да 2002 года. У інтэрв'ю Э. Смулкова расказала пра свой жыццёвы і творчы шлях, сувязі з Беларуссю.

Асноўны раздзел кнігі «Пагранічны моваў» прысвечаны дыялекталогіі, гісторыі, анамастыцы, сацыялінгвістыцы славянскіх моў і мовы літоўскай, а таксама тэарэтычным праблемам моўнага пагранічча і міжмоўных кантактаў.

У другім раздзеле «Памежжы культур» разглядаюцца праблемы гістарычныя, культуразнаўчыя і сацыялагічныя. Яны адлюстроўваюць разнастайныя працэсы, якія адбываліся на працягу стагоддзяў пераважна на той шматкультурнай і шматэтнічнай прасторы, што ўваходзіла ў склад Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай.

Трэці раздзел «Засваенне пагранічча: даследчыкі і творцы» ўзбагачае чытача звесткамі пра выдатных дзеячаў культуры, пра дзейнасць, якая звязана з тым або іншым рэгіёнам. У агульны кантэкст гэтага раздзела ўпісваецца асоба прафесара Э. Смулковай, якой прысвячаецца зборнік.

Як бачым, тэматыка зборніка разнастайная. У той жа час працы, якія ўвайшлі ў гэтую кнігу, утвараюць пэўнае адзінства. Іх тэматыка канцэнтруецца ў коле асноўных навуковых зацікаўленасцей Э. Смулковай.

Трэба прыгадаць, што прафесар Э. Смулкова стаяла ля вытокаў Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Гэта па яе ініцыятыве ў 1990 годзе ў Варшаве ўпершыню сабраўся Арганізацыйны камітэт МАБ.

***Фёдар КЛІМЧУК,***
***кандыдат філалагічных навук***




## 1399

# Загінуў апошні полацкі князь Андрэй Альгердавіч

***Паводле летапісаў, у 1307 годзе Полацкая зямля, што была калыскаю беларускай дзяржаўнасці, мірна ўвайшла ў склад Вялікага княства Літоўскага. Полацк захаваў вялікую самастойнасць, якую навагародскія, а затым віленскія валадары неаднаразова падкрэслівалі пісьмовымі абяцаннямі «ня рухаць старыны, ня ўводзіць навіны». Напачатку становішча Полацкай зямлі ў новай дзяржаве нагадвала палітычны альянс. Дамова, што Вялікае княства Літоўскае падпісала з Лівонскім ордэнам у 1338 годзе, называе полацкага князя, як і гаспадара ўсёй дзяржавы, каралём: «Гэты мір дакончаны ў дзень усіх святых са згоды магістра і ландмаршала і многіх іншых шаноўных і рады Рыскай і са згоды караля Літвы і яго дзяцей і ўсіх ягоных баяраў і са згоды епіскапа полацкага і караля полацкага»...***



*Пячаткі з дагавора Полацка з Рыгай*

На знак прызнання асаблівага становішча крывіцкая зямля мела сваіх князёў, якія звычайна даводзіліся блізкімі сваякамі вялікім князям літоўскім. Полацкі валадар Васіль-Воін быў родным братам Гедзіміна. Пазней полацкі пасад заняў Гедзімінаў унук Андрэй, сын вялікага князя Альгерда.

Андрэй Полацкі быў старэйшы з дванаццаці Альгердавых сыноў. Ён паспяхова ваяваў з Лівонскім ордэнам і пасля бацькавай смерці разлічваў заняць пасад у Вільні. Аднак вялікім князем стаў Ягайла, а Андрэй з дружынаю мусіў падацца ў Масковію да князя Дзмітрыя, таго самага, якога неўзабаве назавуць Данскім.

У Полацк Ягайла прызначыў брата Скіргайлу. Прыязджаючы кіраваць у старажытную крывіцкую сталіцу, усе князі мянялі веру на праваслаўную. Скіргайла, яўна недаацаніўшы самапавагу палачан, наважыўся адступіць ад завядзёнкі і захаваў вернасць паганству. Скончылася гэта для яго вельмі сумна. Раз'ятраны збой полацкіх месцічаў прывязаў князя задам наперад да старой кабылы-шаўлюжкі і пад свіст і агатуканне пагнаў яе да гарадской брамы. Зняважаны, Альгердавіч вярнуўся з моцным войскам, якое разам з лівонскімі рыцарамі ўзяло Полацк у аблогу. Чатыры месяцы палачане адстойвалі родныя сцены і перамаглі. Навука была Скіргайлу на карысць: зноў прыехаўшы праз колькі гадоў у Полацк вялікакняжацкім намеснікам, ён прыняў хрост пад праваслаўным імем Іван.

Барацьба з Ягайлам дапамагла Андрэю Полацкаму вызначыцца на Куліковым полі. Палітычныя варункі штурхалі Вялікае княства Літоўскае да альянсу з Залатой Ардой супраць агульнага ворага. Хан Мамай атрымаў ад Ягайлы абяцанне падтрымаць татараў збройнай сілай. Яго вораг Андрэй стаў пад сцягі маскоўскага валадара.

Беларускае войска спынілася за дваццаць вёрстаў ад Кулікова поля і на бітву не пайшло. Не варта загадваць, якой каляінаю пакацілася б нашая гісторыя, каб Ягайла ўдарыў у спіну маскоўцам. Зрабіць гэтага ён проста не мог, бо ваяры-беларусы не захацелі ісці супраць аднаверцаў, добра памятаючы, як білі ардынцаў на Сініх Водах.

Андрэй Альгердавіч прывёў з сабою каля дзвюх тысяч полацкіх ратнікаў і ўзначаліў полк правай рукі – правы фланг маскоўскіх войскаў. Князь біўся ў адным шыхце з падначаленымі. На шостай гадзіне сечы полк левай рукі і палова вялікага палка паказалі татарскім шаблям ды арканам спіны. Правы фланг з палачанамі, хоць вакол яго і сціскаліся варожыя «абцугі», стаяў насмерць. Чаканне блізкай перамогі ўжо хмяліла Мамаю галаву, але тут у бітву ўступіў засадны полк. Палачане разам з тымі, хто выстаяў, перайшлі ў наступ, «и побегоша татарсции полци, а христианскии полци за ними гоняюше, бьюша и секуша».

Добра, калі хоць трэцяя частка Андрэевай дружыны вярнулася дахаты. Аднак і на радзіме не кожны з гэтых ваяроў памёр сваёй смерцю. Андрэй па-ранейшаму ваяваў з Ягайлам. Марачы пра вялікакняжацкі пасад, ён завёў хаўрус з крыжакамі, назваў лівонскага магістра бацькам і дарагім сябрам і прызнаў сябе ягоным васалам. Крыжацкія мячы расчысцілі князю дарогу назад у Полацк, ды на кані яму давялося быць нядоўга. Андрэй быў разбіты і надоўга трапіў у вязніцу. Трымалі яго за кратамі на ўсялякі выпадак далёка ад дзвінскіх берагоў, у Польшчы. Адтуль князя вызваліў ужо наступны гаспадар Вялікага княства Літоўскага – Вітаўт.

Доўгае і бурнае жыццё старэйшы Альгердаў сын скончыў, як і належыць ваяру, на полі бітвы. Войска Вітаўта ў 1399 годзе напаткала цяжкая параза ад татараў на рацэ Ворскле. Доўга балявалі там ваўкі і крумкачы. Пажываю ім была палова ўсіх воінаў Вялікага княства, каля шасці дзесяткаў славянскіх ды летувіскіх князёў. Ратуючы сябе, баявыя таварышы пакінулі іх непахаванымі. Вусцішнае відовішча адкрывалася на месцы сечы праз колькі гадоў: безліч вымытых дажджамі чалавечых шкілетаў. Там, далёка ад роднай зямлі, трава прарасла і праз косці Андрэя Альгердавіча.

У дзень, калі ён астатні раз бачыў сонца, князю ішоў семдзесят пяты год. Ён застаўся ў гісторыі як апошні полацкі князь. Пасля яго местам і Полацкай зямлёй кіравалі ўжо вялікакняжацкія намеснікі, а пасля на абшары колішняга княства было створана Полацкае ваяводства.

Яшчэ паўтара стагоддзя, да захопу войскамі маскоўскага цара Івана IV у час Інфлянцкай вайны (Ліфляндскай. – **Рэд.**), Полацк заставаўся найбуйнейшым горадам Вялікага княства.

***Уладзімір АРЛОЎ***



*Бітва войск ВКЛ з татарамі на рацэ Ворскле. Сярэднявечная гравюра*

# Каралеўства Чырвонай Ружы

Вячэрняя зара трымала на сваіх пяшчотных далонях сонца і паволі апускала яго за гарызонт. Дзень змяняўся вечарам, і кветкі ў агародчыку Кацярыны Данільчык рэагавалі на гэта кожная па-свойму. Ліловыя Званочкі апусцілі свае галоўкі: ім хацелася спаць. З высокай акуратнай лесвіцы, што паднялася ледзь не да самай страхі прыгожа ашаляванага дома, на іх строга зірнула Каралева агародчыка Чырвоная Ружа:

– А гэта што такое?! Сонца не зайшло, а яны ўжо дрэмлюць, – пачала яна дакараць Ліловыя Званочкі. – Цётачка Півоня, вы там бліжэй. раскагурхайце гэтых гультаёў. Людзі яшчэ па вуліцы ходзяць, мы павінны ствараць для іх прыгажосць.

Старая Півоня махнула галінкамі, і маленькія рупарчыкі пачалі падымацца ўгору.

– Мы дык не спім ні ўдзень, ні ўночы, – пахваліліся Белыя Рамонкі. – Круглыя суткі нясём дзяжурства ў агародчыку, стараемся, каб усюды было прыгожа.

– Падумаеш, яны не спяць, – зашаптаў вузкімі лістамі цыбаты Гладыёлус. – Я, як расцвіту, таксама не буду спаць.

– Вось тады і скажаш, а пакуль што ты яшчэ зусім зялёны, – перапыніла спрэчку Чырвоная Ружа.

– Нешта нашы Клематысы зусім кволыя, – латвей уладкоўваючыся на градзе, прамовіла Півоня.

– А што вы хочаце, цётачка, – заступілася за Клематысы Чырвоная Ружа. – Гаспадыня толькі сёлета іх пасадзіла. Калі крышку падраслі, гаспадар, Сяргей Яўгенавіч, зрабіў акуратненькія лесвічкі, каб яны таксама, як і я, пяліся ўгору. Гэтыя кветкі шматгадовыя, вельмі прыгожыя. Да жніўня яны заплятуць усю сцяну і зацвітуць бардовым, бэзавым і ружовым цветам.



– А мне дык вельмі падабаецца мая суседка Ружовая Ружа, – прашаптаў Беламу Флёксу стары Цюльпан. – Шкада, што я ўжо даўно адцвіў і засох, а Ружачка такая прыгожанькая, – цяжка ўздыхнуў ён. – Вось каб нам пасябраваць...

– І слухаць не хачу! – капрызна страсянула дробненькімі кветачкамі Ружовая Ружа. – Вакол растуць такія чароўныя Хрызантэмы! Яны яшчэ не зацвілі, а ты, дзед Цюльпан, ужо даўно асыпаўся. Ловіш розніцу?

– Не зазнавайся, Ружовая Ружа, – памяркоўна параіў тоўсты Белы Флёкс, які не сёння-заўтра павінен быў зацвісці пахучымі кветкамі. – Усё мяняецца: пакуль Хрызантэмы расцвітуць, ты сама ўжо асыплешся, і яны будуць глядзець на цябе з такой жа пагардай, як ты цяпер на Цюльпан.

– Ну і няхай! – незалюбіла Ружовая Ружа і павярнула свае прыгожыя кветачкі да Зялёнага Мірта.

– Не сумуй, Ружачка, я заўсёды буду з табой, – падміргнуў стары лавелас. Ён цвіў у агародчыку з вясны да восені і таму добра ведаў усе кветкі і пра кожную меў сваё меркаванне.

Чырвоненькія Цыніі – прыгожыя і сціплыя – аб нечым шапталіся з Вяргіняй, што важна расселася побач.

– Пра што вы там? – пацікавілася Чырвоная Ружа. – Гаварыце ўслых, каб усе чулі. У нас тут ніякіх сакрэтаў быць не павінна.

– Яны кажуць, што нам вельмі пашанцавала э гаспадарамі, – важна паведаміла Вяргіня.

– Ну, гэта ні для каго не сакрэт, – згадзілася Чырвоная Ружа. – Такіх гаспадароў, як нашы Данільчыкі, мала не толькі на вуліцы Кастрычніцкай, але і ва ўсім Дзятлаве. Кацярына Мікалаеўна, нягледзячы на шаноўны ўзрост, трымае ў вялікім парадку і дом, і агарод. А з якім клопатам яна даглядае нас! І пустазелле ніколі нас не глушыць, і паліты, падкормлены своечасова.

– Я дык вельмі ўдзячны гаспадару Сяргею Яўгенавічу, што зрабіў для мяне такую цудоўную лесвічку, – прамовіла Ружовая Ружа. – На ёй так зручна! І відаць далёка.

– А я чуў, як гаспадыня расказвала адной знаёмай, што Сяргей Яўгенавіч усё ўмее і ўсё любіць рабіць. Яму ўжо няшмат засталося да сямідзесяцігоддзя, а ні хвілінкі не пасядзіць склаўшы рукі: то мэблю робіць, то нешта рамантуе. А як цудоўна ён ашаляваў дом! – захапляўся Мірт.

– Ага, ва ўсім Дзятлаве ніхто так ашаляваць не можа! – з гордасцю прамовіла Чырвоная Ружа. – Гэта яны аднойчы ездзілі ў Малдавію, і там зусім чужы чалавек, таксіст, прапанаваў паглядзець, дзе нарадзілася знакамітая спявачка Сафія Ратару. Дом яе бацькоў ашаляваны надзвычай прыгожа. «І я так свой ашалюю», – паабяцаў жонцы Сяргей Яўгенавіч. І, бачыце, зрабіў. Ашаляваў і балкон і прымацаваў да яго два цудоўныя ліхтарыкі.

– У нашых гаспадароў і дзеці такія ж акуратныя ды дбайныя – што сын, што дачка, – пахваліў тоўсты Флёкс. – Як прыедуць у госці да бацькоў, то ўсё нешта стараюцца дапамагчы.

– Я са сваёй лесвіцы надта люблю назіраць, калі іхні сын прыязджае дадому ў вайсковай форме. Яго пагоны падпалкоўніка так хораша зіхацяць на сонцы! – парадавалася Чырвоная Ружа.

– Мне і ўнукі гаспадароў падабаюцца, – падтрымала гутарку старая Півоня. – У вялікіх гарадах на асфальце выраслі, а любяць прыроду. Ніколі нас не крыўдзяць. Я ж вясной рана зацвітаю, то падыдуць блізенька, панюхаюць пахучыя кветкі, але не рвуць. Хочуць, каб усім было прыгожа.

... Сонца ўжо даўно схавалася за гарызонт. Патухла вячэрняя зара. Трэці сон бачылі Ліловыя Званочкі, хіліла да сну стары Цюльпан, а каралева Чырвоная Ружа з бліжэйшымі суседкамі ўсё гаварыла пра сваіх цудоўных гаспадароў, дзякуючы якім яны жывуць тут дружнай сям'ёй на радасць усім людзям.

Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ

# Традыцыйны касцюм Гомельскага раёна

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)*

Намі быў даследаваны невялікі куток Гомельскага раёна на паўднёвым усходзе, на мяжы з Добрушскім раёнам і Чарнігаўшчынай – вёскі Пракопаўка, Маркавічы, Гадзічаў, якія разам з суседнімі вёскамі Краўцоўка, Чарацянка, Глыбоц-Макаўе ўтвараюць невялікі мікрарэгіён. Звесткі аб традыцыйным адзенні, ткацтве, апрацоўцы льну і іншыя атрыманы ад мясцовых жыхарак Вольгі Шкляравай, 1920 года нараджэння, Еўдакіі Помаз, 1932 года нараджэння, Надзеі Рабіцы, 1927 года нараджэння, Таццяны Басавай, 1934 года нараджэння. Трэба адзначыць, што вялікую дапамогу ў арагнізацыі экспедыцыйнай работы і зборы матэрыялаў аказалі нам супрацоўнікі аддзелаў культуры і адукацыі Гомельскага райвыканкама Н. Крумкачова (раённы метадычны цэнтр) і Р. Басаў (настаўнік з вёскі Маркавічы).

Своеасаблівы жаночы касцюм гэтых мясцін складаўся з сарочкі, андарака, пояса, безрукаўкі, фартуха, хусткі, упрыгажэнняў. Ён мае адметнасці ў крої, каляровай гаме, спосабах упрыгожвання і іншым. Жаночы касцюм ствараў стройны, выцягнуты па вертыкалі сілуэт, доўгі андарак разам з прамым фартухом павялічваў аб'ём ніжняй часткі касцюма, карсет, які шчыльна аблягаў стан, відавочна памяншаў верхнюю частку фігуры. Сарочкі мелі насычаны малюнак арнаментальнай кампазіцыі на паліку і ў версе рукава, лёгкі, разрэжаны кветкавы арнамент на яго шырокай асноўнай частцы. Манжэта падцягвалася як мага вышэй па руцэ, рукаў сарочкі ствараў напуск, выяўляючы аб'ём і дэманструючы элементы вышыўкі. Завершанасць касцюму надавалі шматлікія пацеркі рознага памеру, якія размяшчаліся на грудзях радамі, ствараючы амаль цэльнае ўпрыгажэнне. Самыя буйныя – на ніжнім краі, апошнія – дробныя, шчыльна ахоплівалі шыю. Нацельны крыжык часта выпускалі паверх адзення, дадаючы яго да нітак драбнейшых пацерак, што было адной з мясцовых асаблівасцей. Гэты касцюм мае агульныя рысы са строямі Чарнігаўшчыны, што абумоўлена даўнімі культурнымі і эканамічнымі сувязямі з суседняй Украінай.



Асноўная частка традыцыйнага жаночага касцюма – сарочка. Адметнасці мясцовай святочнай сарочкі – высокі каўнер-стойка, упрыгожаны сціплай вышыўкай, шырокія рукавы з вышытымі гірляндамі і букетамі кветак па ўсім полі, шырокія манжэты, а таксама вышыўка па зборках на манжэтах, вузкая паласа вышыўкі на падоле.

У названых вёсках нам удалося пабачыць некалькі відаў сарочак, якія дазваляюць правесці невялікі дослед іх змяненняў у часе. Найбольш даўнія жаночыя сарочкі – з вышытым геаметрычным арнаментам у версе рукава і на паліку, мярэжкай уздоўж паліка і рукава з чырвоных, чорных, белых нітак, з даволі вузкай манжэтай, вышыўкай на падоле. Але ўжо ў пачатку XX стагоддзя былі шырока распаўсюджаны сарочкі з вышыўкай чорна-чырвонымі ніткамі і кветкавым арнаментам па ўсім полі шырокага рукава. Паступова зніклі мярэжкі на рукавах, на іх месцы выконвалі паласу густой вышыўкі ў выглядзе гірлянды з кветак, сцяблін і лісця. Змянілася афармленне края рукава: замест шырокай гладкай манжэты сталі рабіць «брыжы» – аборку ў нізе рукава, якая апрацоўвалася краявым пяцельным швом чырвонымі і чорнымі ніткамі. Раней шытво па зборках белымі, чырвонымі і чорнымі ніткамі было распаўсюджана ў Гомельскім, Добрушскім, Брагінскім, часткова ў Веткаўскім раёнах. Геаметрычны арнамент такіх вышывак надзвычай вытанчаны, уражвае тонкасцю выканання і ўзроўнем майстэрства вясковых жанчын.

Андаракі ў даследаваных вёсках існавалі даволі разнастайныя. Найбольш даўнія – з ваўнянай даматканіны ў буйныя клеткі ці ў вертыкальныя палосы. Сустракаюцца старажытныя чырвоныя андаракі з шырокімі палосамі буйнога рознакаляровага арнаменту па падоле , якія распаўсюджаны і на Чарнігаўшчыне. Іх называюць вянчальнымі. На змену андаракам прыйшлі «спадніцы з нагруднікам» – андарак з прышытым ліфам, вырабленым з аднатоннай купленай тканіны або з кветкавымі набойкамі. Пазней іх замянілі больш кароткія спадніцы з фабрычных тканін, упрыгожаныя стужкамі па ніжнім краі.



Даматканыя фартухі перасталі насіць са святочным адзеннем у пачатку XX стагоддзя, ім на змену прыйшлі белыя, якія шылі з фабрычнай тканіны з шырокім брыжом і вузкай палоскай вышыўкі па нізе фартуха, з устаўкамі з тонкіх карункаў ці гафту, а яшчэ пазней – кароткія са скругленым ніжнім краем і аборкай уздоўж яго.



Жанчыны насілі шырокія (15–20 см) чырвоныя паясы з воўны, якія абвівалі вакол стану адзін раз, завязвалі з левага боку спераду, але ж яны канчаткова зніклі з ужытку ў 1930-я гады.

Безрукаўка тут была вельмі прыгожая, называлася «ўшварка», яе шылі з сіняй, чорнай або зялёнай фабрычнай тканіны.

Прычоскі дзяўчат і жанчын адрозніваліся. Усе насілі прамы прабор. Дзяўчаты заплятал адну касу (рэдка – дзве), упрыгожвалі яе стужкамі. Жанчыны заплятал косы і ўкладвалі вянком вакол галавы, паверх надзявалі чапец, а на яго хустку. Пазней з'явілася іншая жаночая прычоска – «кукса» (скручаныя ззаду ў адзін вузел валасы).

У пост насілі чорнае адзенне і хусткі. Дасюль захаваліся ў некаторых хатах святочныя хусткі – «цыганкі» – з тонкай чорнай воўны, з доўгімі махрамі і вышытыі буйнымі каляровымі кветкамі на рагу ззаду. Жанчыны такую хустку завязвалі «пад бараду», дзяўчаты накідвалі на галаву не завязваючы ці абхіналіся ёю. Дзяўчаты насілі пярсцёнкі, завушніцы, маністы, на якіх магло быць да 12 нітак- »сталак», у тым ліку і бурштынавых. На іх было больш, чым на жанчынах, упрыгажэнняў. Па святах дзяўчаты выходзілі на вуліцу з насоўкамі ў правай руцэ, невялікімі букетамі кветак. Святочным абуткам былі баціначкі на абцасіку са шнуроўкай спераду, паўсядзённым – лапці (з лыка), пасталы (з лыка і канапляных вяровачак).

На сямейных здымках Таццяны Басавай з вёскі Гадзічава – яе сваякі ў традыцыйным для свайго часу адзенні. Далей на здымку сядзіць яе свякроў з букетам кветак (здымку каля 115 гадоў). На наступным здымку – сядзіць з кішэнным гадзіннікам у руцэ яе свёкар, ад яго справа – ягоная жонка, а злева – сястра. Свёкар праславіўся тым, што стаў героем мясцовага анекдота. У маладосці ён служыў салдатам на тэрыторыі Польшчы і закахаўся ў польку. Стаў намаўляць яе замуж і хваліцца, што ў яго ёсць лаўка, млын і крупадзёрня на радзіме. Прывёз маладую дадому, а там хатка ў адно акенца і нічога, пра што казаў, няма. Малады хлус стаў выкручвацца: «Я ж казаў, што ў мяне ёсць лаўка – вось яна, ля сцяны стаіць, вось ступа – гэта крупадзёрня, жорны – гэта мой хатні млын». Нічога не заставалася больш дзяўчыне, як змірыцца са сваім лёсам, але яна ўсё жыццё расказвала, як падмануў яе салдат.

А унікальную вышыўку па зборках можна і сёння яшчэ ўбачыць у Гомельскім раёне.



Да зімы – гатовыя!

*Фота Міколы КОТАВА*

# Кнігадрукаванне ў Бялынічах

На жаль, гісторыя друкарскай справы ў Бялынічах яшчэ не даследавана. Вядома, што друкарня па выпуску кніжнай прадукцыі, на базе якой пазней узнікае і гравёрны цэх, была заснавана ў мястэчку ў першай палове XVII стагоддзя і дзейнічала пры тутэйшым кляштары айцоў кармялітаў. Мясцовыя друкары арыентаваліся на выпуск літаратуры рэлігійнага кшталту. Існуюць звесткі, што тут выдаваліся і буквары. Мовай выданняў друкарні з'яўлялася польская і лацінская.

На сёння вядомыя назвы толькі двух кніжак. У 1652 годзе выйшла «Памінальное слова пра Т. Сапегу, жонку падканцлера Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, аршанскага старасты, якое сказаў камісар канвентаў беларускіх кармялітаў у Бялынічах 22 лістапада 1652 года». Наступным годам пазначаны выхад кнігі Барталамея Гінтара «Месяц, праўдзівы сведка на небе чалавечай на свеце нікчэмнасці, у гадавіну смерці святой памяці яснавяльможнага Яго міласці пана Адама Геранім з Гранава Сяняўскага графа на Шклове і Мышы, пісара польнага каroннага, Львоўскага старасты і інш., выкліканы і з'ўлены праз Барталамея Гінтара, каноніка Камянецкага, пробашча і дэкана Меджыбоцкага ў касцёле канвентуальным айцоў дамініканаў у Шклове. І праз таго ж сведку на перасцярогу людзям да друку пададзены ў Бялынічах, у друкарні айцоў кармелітаў пры фундацыі яснавяльможнага Яго міласці пана Казіміра Львона Сапегі, падканцлера Вялікага княства Літоўскага».

Праблематычным застаецца пакуль і пытанне спынення дзейнасці друкарні. Выказваецца меркаванне, што закрылася яна падчас руска-шведскай вайны.

*«Бялыніцкая даўніна»*

# Старадаўнія прафесіі

***(Раздзелы з кнігі)***

## Парасоншчыкі

Уявіце сабе – калісьці ў Лунінцы была майстэрня па вырабе і рамонту парасонаў.

У наш час, калі ўсе побытавыя прадметы вырабляюць масава і кошт іх (яшчэ нядаўна) быў адносна невялікі, часцяком цалкам прыдатная для карыстання рэч з невялікаю паломкаю замянялася на новую. Сёння зламаны парасон прасцей выкінуць, чым адрамантаваць. Так было не заўсёды. Да звыклых рэчаў у мінуўшчыну ставіліся з вялікаю павагаю. Іх перадавалі па спадчыне, захоўвалі. Так было і з парасонамі.

Мініяцюрную парасонную майстэрню трымаў Ж.П. Штэмберг. Тут заўсёды можна было зрабіць рамонт сапсаванага парасона, замяніць спіцы, аднавіць тканіну. Зрэшты, не мелі адмовы і тыя пераборлівыя франты, якія хацелі фарсануць асаблівым парасонам з незвычайнаю ручкаю ў форме галавы каня, сабакі ці іншай формы, выраблена па спецзамове. Нагадаем, што раней парасонам карысталіся і як кійком.

## Калодзежнікі

З праквентных часоў нашыя продкі чэрпалі ваду з рэчак ці ручаінаў, калі яны былі паблізу паселішча. Калі ж такога не было, даводзілася капаць калодзежы. Займаліся гэтай няпростаю справай майстры-калодзежнікі, якія былі спецыялістамі не толькі па іх узвядзенні, але і вызначалі месцы, дзе ёсць падземная вада, каб зладзіць калодзеж, а дзе капаць бессэнсоўна.

Найчасцей будавалі гэтак званыя шахтныя з драўлянымі зрубамі. Майстры найперш выраблялі зруб з брусоў цвёрдых парод, шчыльна падганяючы асобныя звёны. Вышыня зруба залежала ад глыбіні залягання ваданоснага слою. Звёны паслядоўна злучаліся ў раней выкапанай яме. З яе паступова выбіраўся грунт, і зруб паціху апускаўся ў яму, дасягаў ваданоснага слою, замацоўваўся. Дно калодзежа ўкладвалася камянямі, засыпалася дробным пяском. Калодзеж быў гатовы.

Піць ваду з новага калодзежа адразу не раілася. Нейкі час з яго вычэрпвалі ваду і папросту вылівалі. Толькі праз тыдзень-два крыніца вады была гатовая да эксплуатацыі. Вада ў драўляных калодзежах заззвычай была чыстай і смачнай.

Пабудова калодзежа гаспадару каштавала дорага. Таму часцяком яго рабілі сумесна, на мяжы ўладанняў двух сумежных гаспадарак.

Неад'емнаю часткаю калодзежа на Лунінеччыне (яшчэ і па вайне) быў высокі «жораў», якім з глыбіні даставалася вада. «Жораў» – гэта рычаг, замацаваны на у-падобным закапаным у зямлю слупе. На даўжэйшым канцы рычага замацоўвалі груз, на карацейшым – доўгая жардзіна з драўляным вядром-цэбрам, якім чэрпалі ваду. Заззычай на калодзежы рабілі вечка.

Пейзаж даваеннага Лунінца складаўся не толькі з тэлеграфных слупоў, вулічных ліхтароў, высачэзных семафораў, пажарнай каланчы. Амаль праз двор лунінецкае неба ўпрыгожвалі калодзежныя жоравы.

Пазней больш модным і зручным стала прымяненне калаўрота з ланцугом і металічным вядром. Але гэтае магло сабе дазволіць заможныя гаспадары. Толькі ў трыццатыя гады XX стагоддзя традыцыйныя драўляныя зрубы саступалі сваё месца бетонным колцам, якімі і сёння карыстаюцца навасёлы падчас будаўніцтва індывідуальных дамоў.

Напрыканцы 30-х гадоў у індывідуальным карыстанні ў некаторых домаўладальнікаў з'явіліся вадазаборныя калонкі (людзі іх часцей называлі помпамі). Варта было некалькі разоў гайдануць ручку помпы, і праз шырокі кран лілася вада. Такія калонкі для агульнага карыстання з'явіліся і на вуліцах горада. Яны змянілі калькасць жораваў у лунінецкім небе, але не выцеснілі з жыцця прафесію калодзежніка.

Усталёўвалі ў горадзе водазаборныя калонкі майстар Шамкус, які жыў на Легаве па Ровенскім завулку. Вядомым лунінецкім майстрам па вырабе бетонных калодзежаў быў Карпель.

*(Пачатак у № 16)*

**Леў КОЛАСАЎ**

***У 1896 годзе ў Варшаве выйшла з друку праца Я. Карскага «Заходнерускія пераклады Псалтыра ў XV–XVII стст.», дзе вучоным былі апісаны асаблівасці тагачасных беларускіх перакладаў Псалтыра ў графіцы і арфаграфіі, граматыцы і лексіцы, асветлены іншамоўны ўплыў на сродкі моўнага выражэння, дакладзены элементы кніжнай і жывой народнай мовы, зроблены палеаграфічны аналіз перакладных тэкстаў. Якраз названай працай вядомага даследчыка, піянера беларускай мовазнаўчай навукі, распачалося вывучэнне мовы асобных старабеларускіх помнікаў.***

# «Гісторыя пра Атылу»: новае ў даследаванні

Асабліва плённай у гэтых адносінах з'явілася другая палова XX стагоддзя, калі лінгвістычным апісаннем былі ахоплены тэксты рознай жанрава-стылёвай прыналежнасці: «Біблія» Францыска Скарыны, «Евангелле» Васіля Цяпінскага, «Апокрысіс» Хрыстафора Філалета, Статуты Вялікага княства Літоўскага 1529 і 1588 гадоў, Слонімскія акты, Супрасльскі летапіс, «Арыстоцелевы вароты», «Александрыя» і інш. Праўда, вывучэнне іх абмяжоўвалася адным (графіка-арфаграфічным, марфалагічным, лексічным, сінтаксічным) ці двума (графіка-арфаграфічным і марфалагічным) моўнымі ўзроўнямі. Усебакова лінгвістычнае апісанне атрымалі толькі неперакладныя выданні Францыска Скарыны, Баркалабаўскі летапіс, «Дзённік» Фёдара Еўлашоўскага, Вісліцкі статут, «Трыбунал» (1586), «Траянская гісторыя», «Хроніка» Мацея Стрыйкоўскага.

Згаданы вышэй пералік вывучаных у розных аспектах асобных старабеларускіх тэкстаў дапаўняе «Гісторыя пра Атылу»: сёлета ў Будапешце з'явілася на венгерскай мове манаграфія «Атыла» М. Олаха ў польскім і беларускім перакладах. Яе аўтар – Андраш Золтан, вядомы ў славянскім свеце мовазнавец, руплівы даследчык гісторыі венгерскай мовы, кола навуковых інтарэсаў якога звязана таксама і з пытаннямі моўных і культурных стасункаў венграў з народамі Вялікага княства Літоўскага. Гэтай праблематыцы прысвечаны такія артыкулы А. Золтана, як «Словы венгерскага паходжання ў беларускай мове: вусныя запазычанні эпохі Стэфана Баторыя», «Венгерскі ўклад у кніжную культуру Вялікага княства Літоўскага эпохі Адраджэння», «З венгерска-польска-беларускіх культурных кантактаў («Атыла» М. Олаха ў перакладзе польскім і беларускім)», «Палемон і Атыла (з гісторыі моўных і культурных кантактаў венграў з народамі Вялікага княства Літоўскага)» і інш.

«Гісторыя пра Атылу» – ананімны старабеларускі рукапісны пераклад з польскай мовы друкаванага перакладу Цыпрыяна Базыліка «Historia spraw Atyle Kryla Wegierskiego», крыніцай для якога ў сваю чаргу паслужыў напісаны на лаціне ў 1538 годзе венгерскім гуманістам Міклашам Олахам твор «Atila». З'яўленне старабеларускага перакладу прыблізна ў 1580 годзе – заканамерная з'ява, абумоўленая праўленнем у Рэчы Паспалітай Стэфана Баторыя, венгра па паходжанні. Цікавая дэталь: лацінамоўны тэкст, які прысвечаны падзеям і асобам венгерскай гісторыі і які перавыдаваўся па-лацінску ў Венгрыі неадназразова, на венгерскую мову быў перакладзены толькі ў 1977 годзе – амаль праз чатыры стагоддзі з часу стварэння!

Паколькі курс міграцыі перакладу на старабеларускую мову ўстаноўлены дакладна, Андраш Золтан у манаграфіі змяшчае старабеларускі тэкст (факсіміле і транслітарацыю) паводле рукапісу № 94 (першая старонка перакладу змешчана на рэпрадукцыі) Бібліятэкі Рачынскіх у



Познані (с.106–209 манаграфіі), польскі тэкст (факсіміле і транслітарацыю) па унікальным экземпляры кракаўскага выдання 1574 года, якое захоўваецца ў Бібліятэцы Польскай акадэміі навук (с. 216–454 манаграфіі), старабеларускі і польскі тэксты ў паралельным размяшчэнні з указаннем важнейшых разыходжанняў з лацінамоўнай першакрыніцай.

Супастаўляючы і аналізуючы пераклады на старабеларускую і польскую мовы, А. Золтан аспрэчвае думку А. Брукнера, А. Сабалеўскага, Я. Карскага аб тым, што «Гісторыя пра Атылу» ўяўляе сабой «перапісаны рускімі літарамі польскі тэкст» (А. Сабалеўскі), які «літаральна ўзнаўляе польскі арыгінал» (Я. Карскі). Прыведзеныя А. Золтанам урыўкі з лексічнымі адступленнямі ад твора Ц. Базыліка сведчаць, што старабеларускі тэкст з'яўляецца самастойным перакладам і, безумоўна, заслугоўвае належнай увагі з боку мовазнаўцаў, найперш беларускіх (сёння вядомы толькі адзін артыкул венгерскага даследчыка П. Шанкоя «Заўвагі аб «Гісторыі пра Атылу, караля угорскага», які з'явіўся ў 1975 годзе). Помнік утрымлівае багаты і каштоўны матэрыял па гістарычнай лексікалогіі і семантыцы беларускай, а таксама іншых славянскіх моў, выступае крыніцай вывучэння беларуска-венгерскіх моўных кантактаў, маючы ў сваім слоўніку лексіку венгерскага паходжання, у тым ліку назвы антрапанімічныя і анамастычныя.

А. Золтан падкрэсліваe відавочную філалагічную вартасць старабеларускага перакладнога тэксту. Змест страчаных першых старонак друкаванага польскага перакладу магчыма ўзнавіць толькі на аснове старабеларускага твора і лацінамоўнага арыгінала.

Сёння вядомы два выданні «Гісторыі пра Атылу» на старабеларускай мове: публікацыя А. Весялоўскага 1888 года і В. Мікітася 1988 года. У сваім даследаванні А. Золтан робіць тэксталагічны аналіз гэтых выданняў. Так, параўноўваючы тэкст 1888 года з рукапісам у познанскім зборніку, мовазнавец пералічвае лінгвістычна значныя парушэнні: графіка-арфаграфічныя (разные – розные, сэрдцэ – сэрцэ), марфалагічныя, лексічныя (коли – поки, налетает – налегае), а таксама разнастайныя пропускі слоў, сказаў. У выданні Мікітася маюць месца згаданыя парушэнні і новыя, напрыклад, украінізаваная арфаграфія тэксту, адвольная рэканструкцыя прапушчаных слоў і сказаў. Прычынай падобнай неадпаведнасці ў публікацыях «Гісторыі пра Атылу», на думку А. Золтана, з'яўляецца ігнараванне першакрыніцы і перакладу-пасрэдніка. Такім чынам, новае выданне «Гісторыі пра Атылу» павінна будзе грунтавацца на рукапісе № 94 Бібліятэкі Рачынскіх у Познані (апошняя чвэрць XVI стагоддзя), польскім перакладзе Ц. Базыліка, выдадзеным у Кракаве ў 1574 годзе, і лацінамоўным творы Міклаша Олаха.

Цяпер ёсць магчымасць ажыццявіць гэта, дзякуючы змястоўнай і кваліфікаванай працы А. Золтана, цікавасць, актуальнасць і каштоўнасць якой для мовазнаўцаў Беларусі відавочная. Венгерскі беларусіст заклаў падмурак для новага прачытання і лінгвістычнага асэнсавання «Гісторыі пра Атылу» як старабеларускага помніка свецкамастацкага жанру.

***Наталля ПАЛЯШЧУК,***
***кандыдат філалагічных навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі,***
***«Голас Радзімы»***

*Пітэр Джон Мэё – англійскі мовазнаўца-славіст, доктар філалогіі. Сябра англа-беларускага таварыства ў Вялікабрытаніі. Даследуе лексікаграфію, марфалогію і сінтаксіс беларускай і рускай моў. Аўтар «Граматыкі беларускай мовы», раздзела «Беларуская мова» ў калектыўнай манаграфіі «Славянскія мовы» (1993), шматлікіх артыкулаў па пытаннях беларускай мовы, падручнікаў, слоўнікаў. З 1979 па 1988 рэдактар «The Jopnal of Byelorussian Studies» («Часопіс беларускіх даследаванняў»).*

# Беларусазнаўца з Англіі



*У навукова-метадычным цэнтры «Слоўнік» Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта вядзецца праца па стварэнні новага беларуска-англійскага і англійска-беларускага слоўніка. Разам са спецыялістамі лінгвістычнага універсітэта ў стварэнні слоўніка ўдзельнічае доктар Пітэр Мэё – вядомы англійскі славіст, доктар філалогіі, выкладчык Шэфілдскага універсітэта і універсітэта горада Эксетэр у Англіі. Спадар Мэё пагадзіўся даць інтэрв'ю аб сваёй працы ў Беларусі.*

**– Спадар Пітэр, з чаго пачалося Вашае захапленне беларускай мовай?**

– Гэта доўгая гісторыя. Каб усё распавесці, не хопіць часу. Першы раз у Беларусь я прыехаў у 1974 годзе з групай студэнтаў. Да гэтага быў у Расіі. У той час я і зацікавіўся беларускай мовай. У нас ва універсітэце галоўным чынам даводзілася выкладаць рускую мову. Але калі я выдаў параўнальную граматыку славянскіх моў, пачалося маё больш глыбокае даследаванне менавіта беларускай мовы. У 1976 годзе ў Англіі пабачыла свет кніга «Граматыка беларускай мовы» за маім аўтарствам. Пасля гэта праца і мой інтарэс працягваўся.

У 1991годзе я наведаў Міжнародны кангрэс беларусістаў, дзе меў магчымасць пазнаёміцца са спецыялістамі з Мінскага лінгвістычнага універсітэта. Але супрацоўнічаць мы пачалі толькі ў 1993 годзе, калі разам працавалі над кішэнным руска-беларуска-англійскім слоўнікам.

Я прачытаў першы такі слоўнік, што быў на той час ужо выдадзены. Не тое, што ён мне не спадабаўся, ці я яго крытыкаваў, але мы яго абмеркавалі... І зразумелі, што нам трэба працаваць разам. Я рэдагаваў англійскую частку гэтага выдання.

**– Якія літары вы ведзяце ў новым слоўніку?**

– Гэта літары «Д» і «Е» і ўдадатак агульнае рэдагаванне англійскай часткі.

**– Калі плануецца заканчэнне працы?**

– Мы даўно працуем над слоўнікам. І тут не ўсё ад нас залежыць. Падрыхтаваць чарнавы варыянт для рэцэнзента, для ўнутранага выдання мы будзем імкнуцца ў снежні ці студзені. Ну, а як далей усё будзе рухацца, гэта залежыць не ад нас.

**– Вы сказалі, што выдалі параўнальную граматыку славянскіх моваў. Што гэта за праца?**

– Усяго для напісання я выкарыстаў адзінаццаць славянскіх моў. Але гэта тэарэтычная, а не практычная праца. Маёй мэтай было параўнаць розныя славянскія мовы паміж сабой.

**– Раскажыце, калі ласка, пра Шэфілдскі універсгтэт, дзе вы працуеце.**

– Зараз я ўжо на пенсіі. Трыццаць гадоў я працаваў у Шэфілдскім універсітэце, які знаходзіцца на поўначы Англіі. У Шэфілдзе я адзіны спецыяліст па беларускай мове, у Лондане ёсць яшчэ чалавек, напрыклад, вядомы ў Беларусі прафесар Мак-Мілан.

Нельга сказаць, што сярод нашых студэнтаў беларуская мова вельмі папулярная. Нават рускай не вельмі цікавяцца ў параўнанні з французскай ці нямецкай. Проста такая ў нас традыцыя. Самая папулярная замежная мова сярод студэнтаў французская, на другім месцы нямецкая, а потым, мабыць, іспанская. Толькі маленькія групы студэнтаў цікавяцца іншымі мовамі.

Усё ж такі, я лічу, гэта важна, што цікавіцца хоць невялікая колькасць.

**– Ці падабаецца вам у Беларусі?**

– І падабаецца, і не падабаецца. Мне падабаецца, што не згубілі тут нечага, што я адчуў нават з першай паездкі. У параўнанні з Масквой тут існуе спакой. Я ў Беларусі адчуваю сябе як дома. А што не падабаецца – мне здаецца, што за апошнія два гады тут з'явіліся не зусім добрыя заходнія аспекты жыцця. З Захаду ў Беларусь прыйшло не толькі станоўчае, але і тое, што называецца «адваротны бок медаля». Ёсць і добрае, і ёсць не зусім добрае.

*Ядвіга МАЦКЕВІЧ,*
*«Новы час»*

Браніслаў Ігнатавіч Эпімах-Шыпіла і яго час. *Ветрына. 2004.*

***Рэдка здараецца, каб не ў горадзе, а ў гарадскім пасёлку, ранейшым мястэчку, стараннем адной асобы, настаўніцы-энтузіясткі, выдавалася кніга (няхай тыражом у 22 экземпляры) не мясцовага, а агульнабеларускага значэння: «Браніслаў Ігнатавіч Эпімах-Шыпіла і яго час». Пабачыла яна свет сёлета ў Ветрыне Полацкага раёна і прымеркавана да 145-годдзя з дня нараджэння (04.09.1859–06.06.1934) беларускага пісьменніка і грамадска-культурнага дзеяча.***

***Кнігу падрыхтавала Аліна Краснова, арганізатар і загадчыца літаратурна-краязнаўчага музея Б.І.Эпімах-Шыпілы Ветрынскай сярэдняй школы. Яна карпатліва выбрала адпаведныя старонкі з манаграфій Р.Семашкевіча, В.Рагойшы, А.Станкевіча, А.Бергман і іншых даследчыкаў, артыкулы з перыядычнага друку. Знайшлі сваё месца запісы і знаходкі, зробленыя на Ветрыншчыне: апісанне двара Залессе Полацкае, дзе ўзгадаваўся Шыпіла, успаміны яго сваякоў – Іосіфа Дашкевіча з Глыбокага і Ядвігі Сільвестровіч з Торуні (Польшча).***

***А зараз мы пазнаёмім вас з допісам Вольгі Дэконскай, у якім, у прыватнасці, яна расказвае пра пецярбургскі перыяд жыцця Б.І. Эпімах-Шыпілы, калі зарадзілася яго вялікая дружба з будучым народным паэтам Беларусі Янкам Купалам.***



# Крок самы сталы
## Б. І. Эпімах-Шыпілы да Янкі Купалы

... Шмат увагі Браніслаў Ігнатавіч удзяляў студэнтам-беларусам, якія вучыліся ў той час у розных навучальных установах Пецярбурга. Ва ўспамінах Я.Сушынскага, Я.Хлябцэвіча з вялікай павагай гаворыцца пра інтэлектуальныя вечары, якія адбываліся ў гасціннай кватэры прафесара, але найбольш цёпла пра гэта напісала П.Мядзёлка: «Па суботах мы збіраліся на кватэры прафесара Б.Эпімах-Шыпілы. Там жыў тады і Янка Купала, які вучыўся на вячэрніх агульнаадукацыйных курсах. Самыя светлыя ўспаміны засталіся аб гэтых суботніках. Збіраліся сюды ўсе, каму дорага было вызваленне Беларусі з-пад прыгнёту царскага самадзяржаўя, хто меў тыя ці іншыя адносіны да развіцця беларускай культуры. Хто-небудзь з нас рабіў даклад аб гісторыі Беларусі, яе эканоміцы ці аб мове і літаратуры, аб народным мастацтве і г.д... Калі ўдосталь нагаворымся, наспрачаемся, Пясецкая – гаспадыня прафесара Шыпілы – адчыняла дзверы і запрашала нас на гарбату. Чалавек дваццаць садзілася за стол. Было чым паласавацца, асабліва нашай братве, студэнтам». «Суботнікі» адыгралі надзвычай важную ролю не толькі ў згуртаванні землякоў, але і ў іх далейшай нацыянальнай самаідэнтыфікацыі, аб'яднанні культурных і навуковых сіл. Згуртаванне моладзі, зноў жа па ініцыятыве Эпімах-Шыпілы, заканамерна прывяло да арганізацыі Беларускага навукова-літаратурнага гуртка студэнтаў Санкт-Пецярбургскага універсітэта па прыкладзе гурткоў студэнтаў іншых нацыянальнасцей. Беларусы звярталіся ў рэктарат універсітэта аб зацвярджэнні Статута гуртка яшчэ ў 1905–1906 гг., але афіцыйна савет прафесараў зрабіў гэта толькі 30 снежня 1912 г. У склад гуртка ўваходзілі Б.А. Тарашкевіч, А.А. Грыневіч, Я.І. Хлябцэвіч і многія іншыя ў будучым вядомыя вучоныя, культурныя дзеячы. Іх мэтай было «навуковае азнаямленне з духоўным і грамадскім жыццём Беларусі». Большасць членаў гуртка адначасова ўдзельнічалі ў рабоце «Пецярбургскага таварыства студэнтаў-беларусаў». Верагодна, што значную ролю адыграў Эпімах-Шыпіла і ў тым, што гурток падтрымлівалі вядомыя вучоныя і пісьменнікі – Я.Колас, Я.Ф.Карскі, Е.Р.Раманаў, А.А.Шахматаў, С.А.Венгераў, І.А.Бадуэн дэ Куртэнэ, А.Л. Пагодзін, з большасцю з якіх ён быў асабіста знаёмы, падтрымліваў навуковыя сувязі, перапісваўся.

Але найбольш бескарыслівыя і высакародна склаліся адносіны паміж Б.І.Эпімах-Шыпілам і Янкам Купалам. Хрэстаматыйна вядома, што даволі працяглы час яны не былі асабіста знаёмы.

Упершыню пра Янку Купалу Б.І.Эпімах-Шыпіла пачуў, калі малады паэт прыслаў у Санкт-Пецярбург вершаванае прывітанне суполцы «Загляне сонца і ў наша аконца», а пазней у лісце з Мінска У.Самойла даволі настойліва прасіў звярнуць увагу на паэта-самародка. Праз гады сваімі ўражаннямі Браніслаў Іванавіч падзяліўся з Л.М.Клейнбартам: «Заметивши недюжинный талант в присланном приветственном стихотворении, которое мы читали собравшись вечером с большим удовольствием, Суполка попросила Самойло прислать ей стихи Купалы, что тот и сделал, прислався массу стихотворений частью в рукописях автора, частью переписанных на машинке. Все стихотворения подписаны были: Янук Купала и дата написания. Просмотрев все эти стихотворения и сделав из них выборку, я приготовил к печати сборник, который автор пожелал назвать «Жалейкой». Переписываясь на первых порах с Самойло, сыном директора бывшего Минского реального училища, я не знал настоящего имени поэта. Только когда в процессе печатания надо было сноситься с самим автором по поводу или фронтисписа к этому сборничку, сделанного по моему указанию художником Якубовским, или иных вопросов, сообщено мне было настоящее имя и место жительства поэта. Во фронтисписе к заглавному листу я невольно сделал ошибку, написавши вместо «Жалейка Янука Купалы», как автор всегда и повсюду называл себя и подписывался, – «Жалейка Янки Купалы». Таким образом не умышленно переименовал я Янука в Янку, каковую форму имени принял потом и сам поэт и каковая так и осталась за ним до сих пор – не Янук, а Янка Купала.

Будучи спустя некоторое время после этого в Вильне, я лично познакомился с моленьким поэтом, который служил там в одной частной библиотеке, кажется, Даниловича, приветствовал его как белорусского «песняра», высказал о нем свое мнение и заохочивал не зарывать таланта в землю. Он сообщил мне, что носится с темой драматической поэмы «Сон на кургане», которую уже начал писать. Я сказал, что следует ему приехать когда-нибудь в Питер и, что если он это сделает, то двери моей квартиры, как и она сама, всегда для него открыты».

Прашу прабачэння за даволі доўгую цытату, але гэта адзін з нямногіх лістоў вучонага, у якім змешчана інфармацыя пра Я.Купалу, тым болей, што часцей даецца яго вольная інтэрпрэтацыя, а не арыгінал. З-за сваёй сціпласці ён нічога не піша, з якой адказнасцю аднёсся да выдання «Жалейкі», як выбраў і скампанаваў вершы так, што ў першым жа зборніку чытач убачыў не паэта-пачаткоўца, а сталую асобу. Выкарыстаў Я.Купала і запрашэнне пажыць у Пецярбургу. Відаць, яго асабістыя справы былі ў той час дастаткова драматычныя, таму што радкі, звернутыя да Браніслава Ігнатавіча, поўныя адчаю: «...так шчыра хацелася б не загінуць і пажыць дзе-небудзь у культурным мейсцы, каб сябе загартаваць і ашліфаваць на службу беларушчыны і беларускаму грамадзянству. Мне надта хацелася б убіцца ў Пецярбургу ў якую-колечы бібліятэку, так гэта заняцце неяк страшна люблю! Калі б што-небудзь падвярнулася, то тэлеграфуйце мне – я кожнай секунды магу да Вас з'явіцца.

Калі нічога зноснага не прыдумаеце, то такі папраўдзе са мной кепска будзе».

У канцы 1909 г. паэт прыехаў у сталіцу і больш за тры гады жыў у кватэры Эпімах-Шыпілы, не без яго дапамогі паступіў і вучыўся на агульнаадукацыйных курсах А.Чарняева.

Будзем шчырымі і падумаем: стаў бы Я.Купала паэтам-класікам, паэтам-прарокам, выразнікам дум нацыі, калі б не было шчаслівых пецярбургскіх гадоў, калі б яго жыццёвы шлях не перакрыжаваўся з руплівым і клапатлівым Браніславам Ігнатавічам? Адназначнага адказу тут няма. Сам паэт заўсёды помніў, што для яго гэта сустрэча была лёсавызначальнай, быў удзячны Эпімах-Шыпілу, што той даў яму прытулак, прышчапіў добры літаратурны густ, адшліфаваў талент (прымаў удзел у падрыхтоўцы і выданні двух першых зборнікаў паэта). На ўсё жыццё Браніслаў Ігнатавіч застаўся для Я.Купалы суразмоўцам і дарадцам, з якім паэт раіўся, ці варта купляць і чытаць некаторыя кнігі, дзяліўся сваімі творчымі планамі («Напісаў у двух актах камедыю, называецца «Паўлінка»), інфармуе, што «ў суботу еду ў Стоўбцы да Коласа, а адтуль да Астрамовіча», просіць аказаць пэўныя паслугі, скардзіцца, што яго «абакралі». Лейтматывам праходзіць думка: «Шчыра адчуваю, колькі дабра Вы мне зрабілі». Два вершы, датаваныя 1910 годам і прысвечаныя Б.І.Эпімах-Шыпілу, сведчаць, што Я.Купала не проста ўдзячны вучонаму з першых момантаў знаёмства, паэт зразумеў ролю і месца Эпімах-Шыпілы ў грамадскім жыцці беларускага Пецярбурга, у адраджэнні Беларусі.

***Вольга ДЭКОНСКАЯ***





## У заказніках, запаведніках, заапарках

Землі калгаса «Слуцкі» разразаюць напалам нізіннае балота Варонні Востраў на граніцы Пухавіцкага і Смалявіцкага раёнаў. «Тут на сямістах гектарах чыстая карэльская бяроза расла, – з сумам згадвае ўраджэнец гэтых мясцін, ляснічы Селіцкага лясніцтва Мікалай Баравік. – Невялікая частка толькі захавалася. Распрацоўка балота планавалася даўно, хаця гэта было непажадана: такія балоты не распрацоўваліся нават у тыя гады. Тэрыторыя зверам была населена вельмі густа – лось, алень, кабан вадзіліся. Балота было цяжкапраходным, так што яны пачувалі сябе тут вальготна. Але пасля асушэння многае змянілася. Вясеннія замаразкі, напрыклад, сталі біць пасевы. Калі сады цвітуць – усё мёрзне. Балота круглы год сілкавала рэчку, цяпер яна абмялела. Акрамя таго, колькасць капытных і птушак прыкметна зменшылася. Калі раней на балоце можна было бачыць разам па 300–400 цецерукоў, то сягоння добра, калі 15–20. А вось жураўлі збіраюцца па старой памяці. «Вельмі важна, – тлумачыць старшы навуковы супрацоўнік Інстытута заалогіі НАН Беларусі Мікалай Максіменкаў, – што тут для гэтых птушак ёсць ежа – навокал калгасныя палі, ім тут падабаецца, але іх тут крыху турбуюць паляўнічыя».

Ці азначае гэта, што ў Беларусі з'явіцца новы заказнік? А чаму б і не. У выніку работы эколагаў на тэрыторыі Беларусі будзе выяўлена 27 патэнцыяльных ключавых тэрыторый, якія маюць патрэбу ў ахове.

Не меншай праблемай з'яўляецца і тое, як лічаць спецыялісты, што сёння кожны другі драпежнік у беларускай прыродзе – гэта жывёла-перасяленец, завезеная ў рэспубліку для акліматызацыі. Напрыклад, хутка асвоіліся на новай тэрыторыі амерыканская норка і янотападобны сабака: яны не толькі выцеснілі канкурэнтаў з абжытых тэрыторый і неймаверна распладзіліся, але і сталі прычынай рэзкага зніжэння колькасці вадаплаўных птушак на нашых вадаёмах і змяншэння цецеруковых у лясах. Так што вырашаць праблему неабходна. Толькі як? Пытанне застаецца адкрытым.

І яшчэ пра тое, што звяры і птушкі імкнуцца ў зону забруджвання, бо там няма паляўнічых і лесарубаў. «У нас утварыўся сапраўдны райскі куточак, – гаворыць вядучы навуковы супрацоўнік Палескага дзяржаўнага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка Таццяна Дзярабіна. – Амаль няма людзей, ціха, ніхто не палюе, не праводзяцца высечкі. Наогул, усе ўмовы для росквіту фауны і флоры, што мы зараз і назіраем».

Рэзкі ўсплёск колькасці дзікіх жывёл , асабліва капытных, у тутэйшых лясах быў зарэгістраваны ўжо ў першыя гады пасля аварыі на ЧАЭС, расказала Таццяна Рыгораўна. А зараз, па прыкладных дадзеных, на тэрыторыі запаведніка, які займае крыху больш як 215 тысяч гектараў, жывуць каля 2 600 кабаноў, 2 100 ласёў і 400 ваўкоў. Налічылі нават 160 барсукоў, дастаткова экзатычных для гэтых месцаў. Ёсць тут больш за 500 баброў: няма канала, рачулкі, дзе б тыя не пражывалі. Рысяў, якіх упершыню заўважылі ў запаведніку ў 1991 годзе, зараз больш за 20: яны настолькі асмялелі, што нядаўна адна была выпадкова збіта на аўтатрасе...

Прывольна пачуваюць сябе ў чарнобыльскай зоне рэдкія для Беларусі арланы-белахвосты і беркуты, занесеныя ў Чырвоную кнігу. Раней тут зрэдку бачылі 1–2 пары гэтых драпежных птушак, якія харчуюцца дробнымі звяркамі. «А зараз зімой прылятаюць ад 40 да 60 арланаў і ад 5 да 10 беркутаў, – расказвае дырэктар НДІ заалогіі НАН Беларусі Міхаіл Нікіфараў. – Прычым зімоўку арланаў па колькасці наогул можна лічыць адным з самых буйных збораў гэтых птушак у Еўропе». Няўжо ім чарнобыльскае пекла здаецца раем?

А зараз некалькі слоў пра Мінскі заапарк, які сёлета адзначае сваё 20-годдзе. Ён размяшчаецца ў мікраараёне Чыжоўка. Зараз, па словах яго дырэктара Юрыя Рабава, у ім утрымліваецца больш за 600 жывёл каля 160 відаў. Заапарк рэканструюецца, у ім устройваюцца дзесяць сучасных вулічных вальераў для жывёлы, трапічны павільён для круглагадавога ўтрымання і дэманстрацый экзатычных жывёл, дзіцячая пляцоўка для гульні і дзіцячы заапарк з вальерамі для жывога кантакту наведвальнікаў заапарка з дзіцянятамі, у асноўным капытных жывёл. Вядзецца будаўніцтва неабходных гаспадарчых і складскіх памяшканняў.

Дарэчы, у адпаведнасці з генеральным планам Мінска ў горадзе плануецца падшукаць тэрыторыю для стварэння новага больш сучаснага заапарка, а цяперашняму звярынцу для асваення пакінута толькі 14 гектараў.

*Падрыхтаваў*
***Іван ГРЭБЕНЬ***

## Дубы пана Паваліішына

Ёсць у вёсцы Янкавічы Расонскага раёна цудоўнае месца, якое нікога не можа пакінуць абыякавым, хто калі-небудзь пабачыў яго. На беразе Дрысы, раскінуўшы свае вершаліны, стаяць вялікія дубы. Стаяць, упусціўшы магутныя карані свае ў родную цёплую зямельку.

Пра гэтыя дубы ёсць у народзе паданне. Напрыканцы далёкага ад нас XIX стагоддзя жыў на беразе гэтай рэчкі ў прыгожым сваім маёнтку контр-адмірал Паўночнага флота Паваліішын, дэпутат Дзяржаўнай Думы. Паданне, якое перадаецца з пакалення ў пакаленне, на жаль, не захавала для нас імя і імя па бацьку гэтага легендарнага чалавека.

Мясцовая жыхарка, з якой давялося паразмаўляць, паведала, што менавіта пан Паваліішын недзе ў сярэдзіне XIX стагоддзя пасадзіў спачатку першы, а потым другі дуб. Іх Паваліішын садзіў з нагоды нараджэння сваіх сыноў, каб тыя раслі такімі ж магутнымі, каб маглі пастаяць за сябе і за Радзіму.

У народзе захавалася памяць пра Паваліішына як пра добрага пана, які дапамагаў сялянам. Ён, у прыватнасці, пабудаваў для іх першую на Расоншчыне бальніцу, а таксама прыгожую царкву. Яго дабрыня і чуласць вельмі цаніліся сярод простых людзей. У сваю чаргу, гэтыя месцы любіў наведваць сам пан. А ў сваім завяшчанні ён выказаў волю, каб яго пахавалі ў родавым склепе Паваліішыных, што ў гэтых мясцінах. Легенда распавядае, што труну з целам контр-адмірала везлі з самага Санкт-Пецярбурга чорныя, нібы смоль, коні.

Аднак у 30-я гады родавы склеп Паваліішыных быў апаганены мясцовымі жыхарамі. Шукалі яны скарб, які быццам бы быў захаваны недзе ў склепе. Не па-людску абышліся яны з памяццю Паваліішына і, нібы марадзёры, пакінулі пасля сябе спусташэнне.

У эколагаў, краязнаўцаў і гісторыкаў паваліішынскія дубы выклікаюць вялікую цікавасць. Яны іх даследуюць, вывучаюць.

На працягу свайго існавання дубам неаднойчы пагражала небяспека. Падчас Вялікай Айчыннай вайны двухпавярховы будынак пана быў як рэшата ад куль. Але ж гэтыя кулі не закранулі дубоў. Прырода сваёй стыхіяй не раз пагражала дубам. Так, у сакавіку 1953 года быў моцны шквальны вецер, які павыкарчоўваў шмат магутных дрэў. А дубы не паддаліся моцнай стыхіі, выстаялі. Прырода, між тым, падрыхтавала яшчэ адзін сюрпрыз і на пачатку 70-х мінулага стагоддзя нанесла ўдар па аднаму з дубоў. Маланка і пакінула сур'ёзную рану. Кара рассеклася. Менавіта ў гэты час за некалькі дзесяткаў метраў стаялі на лінейцы школьнікі, рыхтаваліся да паходу, які, аднак, прыйшлося адмяніць... Кожны, хто пабываў тут, у Янкавічах, ля дубоў, уражаны відовішчам. Завітайце, калі ласка, у гэты запаветны куточак, каб на свае вочы пабачыць векавую велічную прыгажосць.

***Д. ГАРЭЛІКАЎ***

## Малая краязнаўчая энцыклапедыя

***(Пачатак у № 1 за 2003 г.)***

**БАЗІЛІКА** (ад грэчаскага «царскі дом») – тып антычнага і часоў сярэднявечча прамакутняга будынка, падзеленага ўздоўж радамі калон на некалькі, звычайна да пяці, частак (нефаў – ад лацінскага «карабель», выцягнутая ўдоўжкі частка памяшкання). Сярэдні неф завершаны апсідай (ад грэчаскага «дуга», «скляпенне»); ён вышэйшы і шырэйшы за бакавыя. Асвятленне натуральнае. Уваход у большасці праз нартэкс (ад грэчаскага «ўваходнае памяшканне ў пярэдняй частцы хрысціянскага храма»). На Усходзе вядомы базілікі, падобныя на залы.



У беларускай архітэктуры яны пачалі з'яўляцца ў XVI ст., пашырыліся ў XVII–XVIII стст. Найчасцей выкарыстоўваліся ў каталіцкіх, уніяцкіх і праваслаўных храмах, часамі ў ратушах, а таксама і ў сінагогах (Слонім).

**БАЗЫЛІК ЦЫПРЫЯН** (магчыма, 1535–1600) – паэт, перакладчык, кампазітар на Беларусі. Падтрымліваў Сымона Буднага, падзяляў яго погляды. У 1562–1570 гадах працаваў у Брэсцкай друкарні, дзе папольску выдаваў свае рэфармацыйныя творы і пераклады. Вядомае яго апісанне «... падзей, звязаных са смерцю Хальжбеты з Шыдлоўца Радзівіл» (1562), дзе глыбока спачуваў простаму люду, які мусіў шмат цярпець ад феадальнага ладу. Многія вучоныя лічаць, што ён стварыў сатыру «Пратэй або Пярэварацень» (1564), дзе выкрываў разбэшчаных шляхту і светароў. У паэме «Судовы разбор чарцей» (1570), выкарыстоўваючы фальклор, асудзіў невукаў і невуцтва, іхні здзек над беднымі людзьмі, якія імкнуліся да асветы і адукацыі. Сумесна з А. Воланам ажыццявіў пераклад з лацінскай мовы і выдаў кнігай «... пра бязлітаснае праследаванне божай царквы... пачынаючы з Віклафа і Гуса...» (1567), што сталася адной з першых хрэстаматый пра рэлігійны фанатызм і супраціўам еўрапейскіх мысліцеляў супраць царкоўных ілжэвучэнняў. Пераклаў на польскую мову многія творы, у тым ліку М. Олаха «Пра Атылу, караля ўгорскага» (Кракаў, 1574, рукапіс беларускага перакладу каля 1580), А. Маджэўскага Фрыча «Аб удасканаленні Рэчы Паспалітай» (Лоск, 1577). З 1556 г. быў прыдворны музыкант і ўдзельнік музычнай капэлы князя М. Радзівіла Чорнага. Быў аўтар 4-галосых псалмаў і песень, якія пабачылі свет у Брэсце пад крыптанімамі «С.В.» і «C.S» асобнымі зборнікамі (1556, 1558, 1559) і ў выданні «Песні хвал боскіх» (1558).

**БАЙДА** – герой украінскай народнай песні-балады, што вядомая і на Беларусі. У ёй адлюстравана народнае ўяўленне пра грамадзянскасць, чалавечую мужнасць, любоў да бацькаўшчыны і вернасць ёй, годнасць. Байду за тое, што адмовіўся ажаніцца з турэцкай царэўнай і за кошт гэтага атрымаць вялікія прывілеі і ўладу, не проста падакаралі, а бязлітасна асудзілі, вырашыўшы падвесіць яго за рабрыну на гак. Байда абараняе свой чалавечы і рыцарскі гонар, у знак помсты забівае сям'ю турэцкага ўладара.

Асобныя вучоныя лічылі, што ў Байды быў прататып – чаркаскі і канеўскі староста Вішнявецкі, які ваяваў з паўднёвымі захопнікамі, трапіў да іх у палон, не спакусіўся ні на якія падачкі і не здрадзіў сваёй бацькаўшчыне, за што яго жорстка пакаралі вышэйназваным чынам.

На Беларусі палюбіліся балада і яе мужны герой, на аснове яе невядомы сёння аўтар стварыў свой варыянт. Яго («Ой, у Слуцку на рынку») у XIX ст. запісаў А. Рыпінскі і ў 1840 годзе выдаў у Парыжы ў кнізе «Беларусь».

**БАЙКА** – невялікі, звычайна вершаваны фабульны твор на актальную тэму з павучальным сэнсам. Як жанр вядомы з самых даўніх часоў, блізкі да прытчы і апалога (павучальныя кароткія творы алегарычнага зместу); персанажы – расліны, жывёлы, рэчы, радзей – людзі. На заканчэнне твора – выснова, мараль, што ўзмацняюць папярэдні змест.

У старажытнай Грэцыі (VI ст. да нашай эры) вялікага майстэрства байкапісца дасягнуў Эзоп, у Рыме – Федр (I ст. н. э.). Пазней жанр плённа развівалі Ж. Лафантэн (1621–1695) і І. Крылоў (1769–1844). У беларускай літаратуры гэты жанр пісьмова засведчыўся ў XIX ст. Аўтары – Францішак Багушэвіч («Воўк і авечка», «Свіння і жалуды», Альгерд Абуховіч («Ваўкалак», «Старшына», «Суд», «Воўк і ліса»). У гэтых і іншых байках выявіліся спачуванне беларускаму люду, гнеў супраць царскага прыгнёту. Вядомыя многія факты перакладу на беларускую мову баек І. Крылова (Адам Гурыновіч, Марыя Косіч).

На пачатку XX ст., калі за свядомасцю, мовай і культурай беларускага народа працягваўся жорсткі назірк і ўціск царызму, да жанру байкі звярталіся Янка Купала («Мікіта і валы», «Два мужыкі і глушэц»), Якуб Колас («Баба і куры», «Конь і сабака», «Пан і рэчка»), Максім Багдановіч («Варона і чыж»). Яны пашырылі магчымасці алегорыі як сродку мастацкай тыпізацыі, удасканалілі сюжэт, моўнае майстэрства. Плённа баечныя матывы ў прозе развіваў Ядвігін Ш. («Павук», «Журавель і чапля»).

У савецкі час вялікага поспеху дабіўся Кандрат Крапіва-баечнік. Многія яго байкі («Дзед і баба», «Мандат», «Дыпламаваны Баран», «Махальнік Іваноў», «Жук і блыха» і інш.) сталі хрэстаматыйныя. У іх удала спалучылі-ся актуальная рэчаіснасць, глыбокая алегарычнасць, народнасць, трапнасць мастацкага слова, вастрыня гумару і сатыры. Пазней у баечным жанры працавалі Уладзімір Корбан, Эдуард Валасевіч, Міхась Скрыпка і іншыя.

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі:
грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамаснай – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас:
220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6.
Тэл. 283 28 26.
E-mail: kraga@tut.by

Аб'ём рукапісаў не павінен перавышаць 10 с.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 07. 10. 2004.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Светач»: 220030, г. Мінск, вул. Першамайская, 7.
(Ліцэнзія ЛП № 02330 ад 27. 02. 2004 г.)
Заказ 1627.
Тыраж 1150.